15 чэрвеня 2018 | № 22 (585)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Расія — гэта Аргенціна?**
**Стар. 8**

**4 ЧАМУ КВІТНЕЕ КАРУПЦЫЯ**

Апошнім часам у бясконцы серыял па барацьбе Аляксандра Лукашэнкі з карупцыяй дадаецца ўсё новыя серыі



**5 НАВІНКІ: ПЯТАЕ АДДЗЯЛЕННЕ**

Я пайшла на ананімную кансультацыю ў цэнтр псіхіятрыі і наркалогіі. І пасля шмат людзей даведалася пра маю хваробу

**6–7 ЗНАЁМЦЕСЯ, ГЭТА ЯНЫ ЗАБУДОЎВАЮЦЬ КУРАПАТЫ**

У гэтым расследаванні выяўленая большасць ключавых асобаў, якія маюць дачыненне да рэстарацыі «Паедзем паядзім» у ахоўнай зоне Курапатаў

**10–11 «Я З ВАМІ РАБІЎ ГІСТОРЫЮ, А МНЕ ЗА ГЭТА — СМЕРЦЬ...»**

У бурлівых 1920-х гадах, пасля Вялікай вайны, Еўропа сапраўды была пранізаная агентурнымі сеткамі

# Справа Regnum жыве і перамагае

## І будзе перамагаць, пакуль дзяржава не зоймецца інфармацыйнай бяспекай



Сяргей ПУЛЬША

Апеляцыйная скарга на прысуд беларускім аўтарам расійскага шавіністычнага агенцтва Regnum разглядалася аж у Вярхоўным Судзе Беларусі. Прысуд пакінулі без зменаў. Раней Мінгарсуд прысудзіў Юрыя Паўлаўца, Сяргея Шыпценку і Дзмітрыя Алімкіна да пяці гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на тры гады.

Яны былі прызнаныя вінаватымі ў распальванні нацыянальнай варожасці. Паўлавец і Шыпценка ў суд прыйшлі, Алімкін — не з'явіўся.

У прынцыпе, не так важна, што вырашыць апеляцыйная інстанцыя. Бо відавочна, што працэс Regnum быў палітычны. Ён быў створаны і прызначаны толькі для аднаго: паказаць апалагетам «рускага міра», што Беларусь — краіна суверэнная. І ніякія «ўкраінскія сцэнары» — ці то Майдан, ці то Крым, — тут не спрацуюць. А за спробу прапагандаваць такія рэчы можна і агрэсіі.

Аднак ці дасягнула ўлада працэсам аўтараў Regnum сваёй мэты?

Наўрад ці. Наўрад ці «пасадкай» трох чалавек можна істотна ўмацаваць нацыянальную інфармацыйную бяспеку краіны. Так, гэтым можна некага перасцерагаць, некаму, як кажуць, «пагразіць пальцам», сцішыць антыбеларускі імпэт і прымусіць задумацца. Але гэта — кароткатэрміновы эфект. І з цягам часу ён праходзіць.

А тое, што б сапраўды мела дачыненне да інфармацыйнай бяспекі, у нас не рэалізуецца.

У Беларусі дагэтуль няма збалансаванай інфармацыі. Да халеры ў нас расійскіх тэлеканалаў, а размовы пра доступ у нацыянальную інфармацыйную прастору хаця б аднаго ўкраінскага вядуцца ўжо колькі гадоў — і ўсё безвынікова.

У нас рэгулярна ўсталёўваюцца нейкія квоты. Напрыклад, на «беларускую музыку» ў радыёэфіры, альбо зараз плануюць увесці квоту на «беларускія перадачы» на тэлебачанні. Але гэта папросту не спрацуе. Па-першае, таму, што гэта робіцца дырэктыўна, а не папулярызацыйна. А па-другое, «беларускай вытворчасці» — не значыць «беларускамоўны» ці «беларусацэнтрычны». Тут паказальная зацяглая вайна грамадскіх актывістаў супраць беларускага, падавалася б, «Савушкіна прадукта». Гэты брэнд так і не здолелі пераканаць у неабходнасці беларускай мовы на ўпакоўцы іх прадукцыі. У выніку ў грамадстве «Савушкін» перайменавалі ў «Здрадушкін», і на гэтым усё скончылася.

Не факт, што на тэлевізіі таксама разумеюць розніцу паміж беларускімі перадачамі і перадачамі, створанымі ў Беларусі. А гэта — не адно і тое ж.

Дый справа «рэгнумаўцаў» таксама паказала: можна быць беларусам па пашпарце, ствараць тэксты ў Беларусі — але тэксты, якія маюць выключна антыбеларускі змест. І такіх аўтараў у нас насамрэч — вагон.

Паводле дадзеных дзяржаўнага статыстычнага ўліку, у 2017 годзе літаратура, выдадзеная ў Беларусі на беларускай мове, займае 13,7% у агульнай колькасці выпушчанай у рэспубліцы выдавецкай прадукцыі і 18,8% у



яе сукупным накладзе. Пры гэтым на рускай мове ў рэспубліцы выдадзена 77,5% ад агульнай колькасці кніг, якія па накладзе складаюць 73%.

На пазамінулым тыдні спыніла папяровы выхад «першая беларуская газета з карцінкамі» — «Наша ніва», адроджаная ў 1990-я. Можна шмат спрачацца пра слушнасць ці няслушнасць сыходу выдання з «рэалу» ў інтэрнэт-прастору, аднак адной беларускай назвай у шапіках «Белсаюздруку» паменела. Наўзамен нам абяцаюць гістарычны часопіс, і дай Бог, каб тыя планы здзейсніліся.

У Беларусі даўно блакуюць Хартыю'97. Затое нікуды не падзеўся той самы Regnum, у дачыненні да аўтараў якога быў вынесены прысуд. Ён заставаўся і застаецца ў вольным доступе. Больш за тое, колькасць такіх сайтаў пашыраецца. І стымулюе іх стварэнне, як і стварэнне тэкстаў, якія адмаўляюць беларускую дзяржаўнасць, суседняя «брацкая нам» краіна — пра гэта можна прачытаць, дарэчы, у тым жа апошнім папяровым нумары «Нашай Нівы».

> **Наўрад ці «пасадкай» трох чалавек можна істотна ўмацаваць нацыянальную медыйную бяспеку краіны**

Прысуд аўтарам Regnum, разгляд іх апеляцыі і іншыя юрыдычныя рухі аніяк не вырашаюць галоўнага пытання — нацыянальнай інфармацыйнай бяспекі. Арышт і тэрміны аўтарам Regnum могуць толькі папярэдзіць асабліва рызыкоўных «пісьменнікаў», але спыніць шэраг антыдзяржаўных і антыбеларускіх матэрыялаў не ў стане.

Можна колькі заўгодна разважаць: ці ёсць працэс Regnum працэсам супраць свабоды слова альбо гэта ёсць працэс адказнасці за свае словы. Але нельга не зазначыць, што ў дзяржаве, якая б сапраўды клапацілася пра сваю інфармацыйную бяспеку, пра сапраўднае патрыятычнае выхаванне, і не пра «сацыяльную абарону», а пра сапраўдны дабрабыт грамадзян (фінансавы складнік для тых, хто працаваў на Regnum, быў зусім не на апошнім месцы), такога б працэсу папросту не было. Таму што не было б каму ў Беларусі пісаць на той Regnum.

Але ў стварэнні такой агульнадзяржаўнай сістэмы мы марудзім. І гэтае прамаруджванне можа нам занадта дорага каштаваць — як яно каштавала Украіне. Там таксама на «рускую вясну» глядзелі як на недарэчнасць і блазнаў. А ў выніку пазбавіліся Крыму і ледзь не страцілі Данбас.

# Юрыст: Беларусі і антыкарупцыйны суд не дапаможа

Генадзь КЕСНЕР

**Беларускія СМІ ледзьве не штодня паведамляюць пра затрыманні спецслужбамі ўпраўленцаў рознага кшталту, высокапастаўленых чыноўнікаў па абвінавачанні ў карупцыйных дзеяннях.**

Узровень тых, хто апынуўся ў следчых ізалятарах КДБ ці МУС, уражвае. Апошнім прыкладам ёсць арышт памочніка кіраўніка дзяржавы па Гродзенскай вобласці Сяргея Раўнейкі, якога схапілі за руку пры атрыманні хабару памерам у 200 тысяч (!) долараў. І падобных ужо вядомых справаў не проста багата, а вельмі багата ў нашай далёка не багатай краіне.

Ва Украіне ствараецца Вышэйшы антыкарупцыйны суд. Адпаведны закон падпісаў прэзідэнт Пятро Парашэнка. Можа, прыспеў час і ў Беларусі стварыць свой антыкарупцыйны суд? Пра гэта ў гутарцы з НЧ разважае былы суддзя і адвакат, старшыня юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйла.

***— Гары Пятровіч, ці варта ў Беларусі па прыкладзе Украіны стварыць антыкарупцыйны суд?***

— Пакуль што ранавата. Які б суды пры цяперашняй уладзе ні ствараліся, яны не будуць незалежныя, яны будуць выконваць толькі волю нашага «гасудара-імператара». У гэтых умовах змагацца з карупцыяй практычна немагчыма.

***— Немагчыма?***

— Адмысловы суд перадусім неабходны там, дзе ёсць самастойная судовая ўлада, дзе яна не залежыць ад органаў выканаўчай улады, і толькі ў гэтых умовах суддзі могуць ажыццяўляць правасуддзе, у тым ліку па справах аб карупцыі. Так, ва Украіне такі суд створаны, але, калі б былі магчымасці пераадолець парушэнні прынцыпаў незалежнасці ў астатніх судах, у судах агульнай юрысдыкцыі, не было б патрэбы ствараць спецыяльны суд. Магчыма, улічваючы непад'ёмнасць гэтай сітуацыі для ўсіх судоў ва Украіне, было вырашана стварыць хаця б такі суд па барацьбе з карупцыяй.

***— Чым беларуская сітуацыя адрозніваецца ад украінскай?***

— У нас уся ўлада сканцэнтраваная ў адных руках, суды фактычна падпарадкаваны кіраўніку дзяржавы і выканаўчай уладзе, у нас няма незалежнага правасуддзя. Пракуратура, якая мусіла б быць таксама самастойнай і незалежнай, падпарадкаваная тым жа «выканаўцам», пачынаючы з мясцовых начальнікаў і заканчваючы галоўным начальнікам.

Таму ва ўмовах той сістэмы ўлады, якая створана і дзейнічае ў нашай краіне, не могуць існаваць іншыя сапраўдныя незалежныя галіны ўлады — тая ж заканадаўчая, судовая. Справа не ў судах, а ў прынцыпах, на якіх павінна грунтавацца іх дзейнасць. У нашых рэаліях, як гэты суд ні называй, ён усё роўна будзе залежным і будзе выконваць волю толькі аднаго вядомага чалавека. На каго ён пальцам указаў, супраць таго вядуць справу.

Але ёсць яшчэ справы, пра якія мы ўвогуле не ведаем. То бок, яму, магчыма, дакладаюць, ён глядзіць, маўляў, гэта свой хлопчык, сучын сын, але няхай пакуль працуе. Бо многія з'яўляюцца яго прызначэнцамі, той жа памочнік па Гродзенскай вобласці. Ён жа там быў старшынёй абласнога камітэта дзяржкантролю, і, найхутчэй, пачынаў карупцыйную дзейнасць яшчэ на той пасадзе. Тым не менш, яго высунулі на яшчэ больш высокую пасаду. Гэта чалавек Лукашэнкі, ён прыйшоў у тую ж галіну і працягнуў займацца тым, чым займаўся раней. Але, відаць, зарваўся, і хабары былі настолькі відавочныя, што было вырашана даць яму па руках.

# Беларусы сталі менш піць?

**Паводле апошняй справаздачы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, сярод пітушчых краін Беларусь апусцілася з другога месца на дваццаць сёмае.**

З 2010 па 2016 год, за якія прыводзіцца статыстыка, беларусы з самай пітушчай нацыі ў свеце апынуліся ў сярэдзіне рэйтынгу краін Еўропы. У нас на аднаго чалавека выпіваюць 11,2 літра чыстага спірту ў пераліку на алкагольныя напоі. Больш за ўсё п'юць у Малдове — 15,2 літра.

Такім чынам, Беларусь не ўваходзіць нават у дваццатку пітушчых краін. Гэта апошнія дадзеныя, але яны актуальныя на 2016 год, таму што збіраліся за гэты перыяд.

У выніку Беларусь займае 27-е месца ў свеце па спажыванні алкаголю на душу насельніцтва ва ўзросце ад 15 гадоў. Першае месца з 15,2 літра заняла Малдова, другое — Літва (15 літраў), трэцяе — Чэхія (14,4 літра), чацвёртае — Германія (13,4), пятае Люксембург (13 літраў). У Польшчы выпіваюць 11,6 літра, у Расіі — 11,7 літра, ва Украіне — 8,6 літра.

Яшчэ летась паведамлялася, што, паводле дадзеных СААЗ, у нас на той жа 2016 год 16,4 літра алкаголю на чалавека, і гэта другое месца ў свеце пасля Літвы. Аднак той рэйтынг быў прагнозным, і ён не апраўдаўся.

Дадзеныя нацыянальнай статыстыкі адрозніваюцца ад дадзеных СААЗ. Паводле звестак Белстата, беларусы выпілі ў 2016 годзе 8,8 літра алкаголю на душу насельніцтва. У 2015 годзе — 9,3 літра. Але нацыянальная статыстыка ўлічвае паказчык продажаў алкаголю, разлічваючы яго на ўсе групы насельніцтва. СААЗ жа, улічваючы ацэнкі экспертаў, выводзіць паказчык спажывання алкаголю на людзей з 15 гадоў.

Цікава, што, паводле статыстыкі СААЗ, у 2011 годзе нашы грамадзяне выпілі 17,31 літра алкаголю на душу насельніцтва. У наступныя гады спажыванне алкаголю падала: 16,35 літра ў 2012 годзе, 14,66 — у 2013-м, 13,94 — у 2014-м.

Раней у дакладзе СААЗ, прысвечаным менавіта спажыванню алкаголю і здароўю, на кожнага жыхара нашай краіны, старэйшага за 15 гадоў, у 2010 годзе прыпадала па 17,5 літра алкаголю. На той момант мы былі самай пітушчай нацыяй у свеце.

**Паводле news.tut.by**

# Раманчук: з-за «Паедзем паядзім» церпіць рэпутацыя ўлады

**Вядомы эканаміст накіраваў прапановы ў Савет па развіцці прадпрымальніцтва, якія дапамаглі б вырашыць канфлікт паміж грамадзянскай супольнасцю і ўладальнікамі рэстараннага комплексу «Паедзем паядзім» побач з Курапатамі.**

Раманчук у адкрытым лісце адзначае, што апаненты забаўляльнага комплексу звяртаюць увагу на сумнеўныя працэдуры па выдачы неабходных дазволаў для аб'екта, у тым ліку звязаныя з вылучэннем зямлі ва ўнікальным гістарычным месцы: «У выніку церпіць рэпутацыя органаў улады. Маўляў, у Беларусі багатыя бізнесмены могуць «купіць» любыя паперкі, ігнаруючы інтарэсы грамадства і гісторыка-культурную спадчыну краіны».

Гэты канфлікт, па меркаванні Раманчука, негатыўна адбіваецца на рэпутацыі беларускага бізнесу. Калі людзі культуры і мастацтва займаюць адзін бок у канфлікце, а людзі бізнесу не выказваюцца або падтрымліваюць іншую пазіцыю, узмацняецца недавер да прадпрымальнікаў, «для якіх, маўляў, няма нічога святога».

«Лічачы прыярытэтным безумоўную павагу гістарычнай памяці грамадства, захаванне месцаў, якія з'яўляюцца нацыянальна-культурнай спадчынай РБ;

Зыходзячы з неабходнасці вядзення канструктыўнага дыялогу паміж бізнесам і ўладай, бізнесам і грамадствам;

Кіруючыся патрабаваннем паляпшэння міжнароднага іміджу Беларусі, а таксама рэпутацыі і статусу нацыянальнага прадпрымальніцтва ўнутры краіны;

Улічваючы хуткасць і інтэнсіўнасць эскалацыі канфлікту паміж камерцыйнай арганізацыяй з замежным капіталам і актыўнай часткай беларускай грамадзянскай супольнасці, прадстаўнікоў культуры, навукі і мастацтва,

прапаную наступнае:

- Звярнуцца ў выканкам Мінскай вобласці, іншыя органы дзяржаўнай улады з прапановай прыпыніць дзеянне дазволаў, выдадзеных ТАА «Амізбел» на ажыццяўленне камерцыйнай дзейнасці ў рэстаранным комплексе «Паедзем паядзім» побач з урочышчам Курапаты.
- Звярнуцца ў Генпракуратуру і Следчы камітэт з прапановай правесці расследаванне дзеянняў органаў дзяржкіравання па выдачы ўсіх дазволаў, атрыманні ўзгадненняў на ўсіх этапах рэалізацыі камерцыйнага праекта ўласнікам.
- Правесці пасяджэнне Савета з запрашэннем бакоў канфлікту, а таксама незалежных экспертаў у сферы гісторыка-культурнай спадчыны, выпрацаваць прапановы для вырашэння канфліктнай сітуацыі для органаў дзяржаўнага кіравання.
- Прапанаваць Савету Міністраў стварыць структуру па іміджы Беларусі ў свеце, акцэнтуючы краінавыя перавагі, у тым ліку асаблівае стаўленне да гісторыка-культурнай спадчыны», — піша Раманчук.

**Паводле gazetaby.com**

**Больш падрабязна пра ўладальнікаў «Паедзем паядзім» чытайце на стар. 6–7**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Анархія — маці дабрабыту?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як у нас усё добра — аж зайздросна. Нават, паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта, цэны ў краіне падаюць. Аднак «народзец» усё крыху падпсаваў — ну ніяк не заўважае паляпшэння сітуацыі. Неадчувальны нейкі народ. Бяздушны.**

Індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў траўні 2018 года ў параўнанні з красавіком 2018 года склаў 99,7%. То бок, на 0,3 у нас зафіксаваная дэфляцыя, пра што не прамінулі пратрубіць па ўсіх тэлеканалах. Гэты разлік заснаваны на базавым індэксе спажывецкіх цэн, які выключае змяненне цэн на асобныя тавары і паслугі, схільныя да ўплыву фактараў адміністрацыйнага і сезоннага характару.

Харчовыя тавары ў траўні патаннелі на 0,6% у параўнанні з красавіком 2018 года, нехарчовыя — на 0,03%. Паслугі падаражэлі ў траўні на 0,1%, перадае БелТА. Паводле дадзеных Белстату, інфляцыя ў Беларусі ў красавіку склала 0,3%, у параўнанні са снежнем 2017 года гэты паказчык склаў 2,8%. Па прагнозе на 2018 год, інфляцыя не павінна перавысіць 6%.

Здавалася б — жыві і радуйся. Але лічбы Белстата дзіўным чынам не супадаюць з лічбамі іншай урадавай структуры — Нацыянальнага банку Беларусі. У тым жа траўні Нацбанк правёў апытанне 2 тысяч беларусаў, і неяк ніякай дэфляцыі яны не заўважылі. Больш за тое, народ не верыць навят у афіцыйны паказчык інфляцыі.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, інфляцыя ў Беларусі ў 2017 годзе склала ўсяго 4,6%. Тым не менш, 49,8% апытаных адзначылі, што ў 2017 годзе цэны выраслі «вельмі моцна». Каля 39% адзначылі «умераны рост цэнаў» і толькі 8,8% апытаных адказалі, што цэны «выраслі нязначна».

У ходзе апытання таксама высветлілася, што ў 48,1% рэспандэнтаў за апошнія тры месяцы не было буйных выдаткаў. Згодна з правіламі беларускай статыстыкі, можна было б сказаць, што «ў беларусаў усё ўжо ёсць, таму ім не трэба купляць нешта буйное». Аднак мы — не статыстыка. Мы заўважым: апытаныя Нацбанкам паказалі, што для іх — «буйныя выдаткі».

Найбольш папулярны артыкул вялікіх выдаткаў — «лячэнне (сваё, дзяцей, сваякоў)». Так адказала 12,2% апытаных. На другім месцы па стратнасці апынуліся набыццё камп'ютэрнай тэхнікі, планшэтаў, смартфонаў, мабільных тэлефонаў і гэтак далей. І толькі на трэцім — аўтамабіль. Чацвёртае і пятае — хатняя бытавая тэхніка і кватэра.

Зноў мы вяртаемся да таго, што ніякай «сацыяльнай дзяржавы» ў нас няма, і пра яе трэба забыцца. Калі ўжо лячэнне з нашай «бясплатнай медыцынай» патрапіла ў шэраг «буйных выдаткаў» — гэта звышпаказчык адсутнасці ўсялякай «сацыяльнасці». Дый набыццё мабільнага тэлефона раней неяк не ўваходзіла ў шэраг «вялікіх выдаткаў». Аўтамабіль, кватэра — так, але не мабільнікі, якія зараз каштуюць даволі танна.

Таксама варта адзначыць, што каля 64% апытаных у траўні рэспандэнтаў лічаць: кошты ў 2018 годзе «будуць расці гэтак жа інтэнсіўна», як і ў мінулым годзе.

Яшчэ адна цікавая лічба. Насельніцтва Беларусі дваццаць восьмы месяц запар (!) застаецца чыстым прадаўцом наяўнай валюты. У траўні чысты продаж валюты вырас на 18% да красавіка, склаўшы 234,7 мільёна долараў.

Беларусы прадалі банкам 710,1 мільёна долараў, а купілі ўсяго 475,4 мільёна. І гэта даволі дзіўна, бо напярэдадні летняга сезону грамадзяне звычайна набываюць валюту для адпачынку за мяжой. Тое, што ўзрастае продаж замежных грошай, сведчыць толькі пра адно: заробку на жыццё не хапае.

І «праядаюцца» валютныя заначкі велізарнымі тэмпамі. У 2016 годзе чысты продаж валюты насельніцтвам склаў 2,4 мільярда долараў, за мінулы год — 2,2 мільярда долараў, за пяць месяцаў гэтага года — 863,9 мільёна долараў. Паводле меркавання эканамістаў, тры гады таму «падушка бяспекі» насельніцтва ацэньвалася ў 8 мільярдаў долараў. Такім чынам, больш за паловы з яе ўжо няма. Яшчэ годзік-паўтара — і народ згалее канчаткова.

**Калі працадаўца «заплаціў» 1234 рублі, з іх на розныя падаткі, паводле падлікаў журналістаў, сышло 548 рублёў 11 капеек — амаль палова ад гэтай сумы! Практычна палову заробку мы аддаем дзяржаве!**

Можа быць, таму дзяржава і спяшаецца як мага хутчэй прыбраць народныя грошы да сябе. Партал kp.by падлічыў, колькі грошай беларусы насамрэч плацяць у выглядзе падаткаў. Высветлілася — палову!

«Камсамолка» за пункт разліку ўзяла суму, «якую большасць беларусаў і блізка не бачыць у разліковых лістках, але якой любяць аперыраваць у афіцыйных справаздачах» — 921 рубель, «брудны» сярэдні заробак па краіне. І дадалі да іх зборы ў фонд сацыяльнай абароны — 34%. Такім чынам, калі нейкі фантастычны беларус атрымлівае заробак у 921 рубель (таму што ў рэальнасці такая зарплата — велізарная рэдкасць), то на самай справе заробак складае 1234 рублі. Ад гэтай сумы яны і адштурхнуліся.

Страхавыя ўнёскі — 34% зарплаты і яшчэ 1% наўпрост з заробку працаўніка. Падаходны падатак — 13%. Зямельны падатак — за карыстанне зямлёй, на якой стаіць дом. Тыя, хто жыве ў кватэрах, — не выключэнне, папросту ў гэтым выпадку сума зямельнага падатку дзеліцца паміж усімі жыхарамі дома. З кожнага жыхара краіны — у сярэднім па 5,16 руб. на месяц. Адлічэнні на капітальны рамонт — 2,60 руб. Падатак на дададную вартасць закладзены ў цану практычна ўсіх тавараў і паслуг, якія мы купляем. Прыкладна па 80 руб. на месяц. Акцызы — прыкладна 19,83 руб. на месяц.

У выніку, калі працадаўца «заплаціў» 1234 рублі, з іх на розныя падаткі, паводле падлікаў журналістаў, сышло 548 рублёў 11 капеек — амаль палова ад гэтай сумы! Так што на самай справе практычна палову заробленых грошай вы аддаяце дзяржаве.

Пры гэтым вы аддаяце гэтыя падаткі дзяржаве ў тым ліку і на забеспячэнне «бясплатнай» медыцыны, якая насамрэч з'яўляецца «буйнымі выдаткамі» для насельніцтва.

Пры гэтым kp.by адзначае: спіс падаткаў і збораў — няпоўны, гэта толькі найбольш распаўсюджаныя вылічэнні. А ёсць яшчэ «дарожны збор», падаткі на пасылкі з-за мяжы і падарункі, дзяржпошліны і гэтак далей…

Як тут беларусу быць багатым, калі ў яго забіраюць палову ад зароблненага?

Ну і самы яскравы паказчык «дэфляцыі». На барысаўскім заводзе агрэгатаў, які ўваходзіць у холдынг «Аўтакампаненты» (кіруючая кампанія ААТ «БАТЭ»), з працоўных сабралі подпісы на згоду атрымліваць частку заработнай платы ў натуральнай форме. Подпісы збіраліся «імем рэвалюцыі»: працоўныя «давалі згоду» на тое, што на суму ў 20 рублёў будуць атрымліваць у завадской сталовай прадукцыю барысаўскага мясакамбіната №1 і «Здравушкі».

Так што паляпшэнне дабрабыту насельніцтва на 0,3% — проста пыл у вочы. А калі рэальна паглядзець на тое, што дзяржава забірае, і што яна замест гэтага дае, — міжволі станеш анархістам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Лія Ахеджакава

**Культавая расійская актрыса падтрымала абаронцаў урочышча «Курапаты».**

Народная актрыса Расіі Лія Ахеджакава («Службовы раман», «Масква слязам не верыць», «Гараж» і інш.) сказала «Радыё Свабода», што ведае пра Курапаты як месца масавых расстрэлаў, а навіну пра адкрыццё там рэстарана ўспрыняла вельмі эмацыйна.

«Божа, яны з глузду з'ехалі? Хто гэтыя людзі? Яны б яшчэ прыбіральню адкрылі на такім месцы! Крыжа на іх няма! «Крыжа няма» — не ў тым сэнсе, што не вераць, а што гэта мярзота. Абы толькі грошы ўкласці, абы бізнес развіваўся. А сумленне ж павінна быць хоць нейкае?» — абураецца Ахеджакава.

Між іншым, сённяшніх абаронцаў Курапатаў яна называе яшчэ лагоднымі. «Трэба памятаць, што ёсць і людзі крайніх учынкаў, і іх (рэстарацыю. — НЧ) сапраўды спаляць! Абавязкова знойдзецца хтосьці, хто не будзе доўга ўгаворваць, казаць пра сумленне, — спаляць і ўсё».

Але сама Ахеджакава ўсё ж заклікае да сумлення. «Там, дзе расстрэльвалі нявінных людзей, ставіць рэстаран, прыбіральню, лазню, пральню — ганебна!» — заявіла яна.



## Павел Бука

**Беларускамоўны матэматык не ўпісаўся ў беларускую IT-краіну.**

Павел Бука — арганізатар бясплатных лекцый па праграмаванні, якія праводзяцца на беларускай мове. Лекцыі «Інстытута матэматыкі і кібернетыкі» наведвае ўсяго каля 30 слухачоў. Некаторыя з іх — студэнты-завочнікі Міжнароднага эканоміка-гуманітарнага ўніверсітэта ва ўкраінскім Роўна, яны плацяць за вучобу $600 штогод. Камітэт дзяржкантролю палічыў «Інстытут» філіялам МЭГУ.

Бука кажа: паміж беларускімі курсамі і ўкраінскім універсітэтам ёсць толькі дагавор аб сумеснай дзейнасці. «Мы дамовіліся, што яны адкрываюць беларускамоўны паток у сябе, а мы праводзім экспертызу абітурыентаў і распаўсюджваем інфармацыю пра гэтыя навучанні. Нашы лекцыі бясплатныя, іх чытаюць дацэнты БДУ, а наведваць можа хто заўгодна. Да нас прыходзілі і студэнты беларускіх універсітэтаў, і тыя, хто наогул нідзе не вучыўся», — кажа Бука.

12 чэрвеня ў кватэры Букі адбыўсяператрус — следчыя паўтары гадзіны шукалі дакументы і каштоўнасці. Але нічога не знайшлі. Па словах Букі, яго прасілі аддаць 30 тысяч рублёў добраахвотна. «Адкуль узялася гэтая фантастычная лічба? Верагодна, яны проста ўзялі гэтыя 600 долараў, памножылі на колькасць студэнтаў — і вывелі суму. Гэта значыць, легальную дзейнасць замежнай установы яны абвясцілі нелегальнай дзейнасцю беларускага філіяла, якога ў прынцыпе не існуе», — распавядае Павел Бука.

Следчыя органы спрабуюць даказаць, што Павал Бука і яго калегі адкрылі «незаконны» універсітэт.

## Святлана Алексіевіч

**Нобелеўская лаўрэатка па літаратуры працягвае дабрачынную дзейнасць па выпраўленні дзяржаўнай несправядлівасці.**



Алексіевіч вельмі моцна ўразілася гісторыяй Антаніны Шайнюк — маці шматдзетнай сям'і, дзяцей якой хацелі паставіць на ўлік як тых, хто знаходзіцца ў «сацыяльна небяспечным становішчы». Дырэктарка школы №3 Гомеля паграржала гэта зрабіць, калі Шайнюк не пераклеіць распісаныя дзецьмі шпалеры і не ўсыпіць хворага сабаку — ачучарку Крысту, якая расла разам з дзецьмі.

Антаніна Шайнюк казала, што не аддасць сабаку, нават калі яе паспрабуюць забраць і ўсыпіць сілай. Таму што Крыста — як дзіця і як член сям'і, яна з дзецьмі з самых першых дзён, і яна іх літаральна выгадавала.

Алексіевіч пералічыла Антаніне Шайнюк 2 тысячы рублёў. І яна была не адзінай, хто пасля сюжэту дапамог сям'і. Зусім незнаёмыя людзі падтрымалі Шайнюк і маральна, і фінансава: усяго за пару тыдняў дапамаглі пераклеіць практычна ўсе шпалеры ў кватэры. Дапамаглі і з лекаваннем Крысты: аперацыя па выдаленні ракавых пухлінаў ёй была праведзена паспяхова, а сабака аднаўляецца ў родных сценах.

# Чаму квітнее карупцыя

## Апошнім часам у бясконцы серыял па барацьбе Аляксандра Лукашэнкі з карупцыяй дадаюцца ўсё новыя серыі

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Яшчэ 15 лютага кіраўнік дзяржавы вызваліў ад пасадаў міністра лясной гаспадаркі Міхаіла Амельяновіча і міністра спорту і турызму Аляксандра Шамко з вельмі знамянальнай фармулёўкай: за «непрыняцце дзейсных захадаў у барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі правапарушэннямі ў падведамасных арганізацыях». Паведамлялася, што КДБ затрымаў 12 работнікаў міністэрства лясной гаспадаркі і двух прадпрымальнікаў, якія пад выглядам таннай драўніны прадавалі за мяжу прадукцыю высокай якасці. Таксама затрыманы за хабар дырэктар сталічнага Палаца спорту Сяргей Пpановіч.**



Малюнак www.sputnik-georgia.ru

Зусім нядаўна быў арыштаваны памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Раўнейка, які спрабаваў атрымаць хабар у $200 тысяч. Днямі Лукашэнка праанансаваў новыя гучныя карупцыйныя справы. Старшыня КДБ Валерый Вакульчык пацвердзіў, што затрымана некалькі службовых асоб высокага ўзроўню, адзін з якіх браў хабар у $140 тысяч. У пачатку траўня быў адпраўлены ў адстаўку міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык з фармулёўкай «за садзейнічанне незаконнаму сямейнаму бізнесу».

Паводле паведамлення прэс-службы Генпракуратуры, колькасць выяўленых карупцыйных злачынстваў у 2018 годзе павялічылася: «За 3 месяцы гэтага года ў Беларусі адбыліся амаль 700 карупцыйных злачынстваў. Гэта ў два разы больш, чым за такі ж перыяд 2017 года». Колькасць хабараў узрасла больш чым удвая. Амаль раз на тыдзень прыходзяць паведамленні пра чарговыя затрыманні, крымінальныя справы. Карупцыя закранула ўсе сферы грамадскага жыцця. Ствараецца ўражанне, што ў высокіх чыноўнікаў сарвала нейкія тармазы, і яны паводзяць сябе як «у апошні дзень Пампеі».

Мы ўсе памятаем, як Лукашэнка зрабіў ідэю барацьбы з карупцыяй сцягам сваёй прэзідэнцкай кампаніі 1994 года: ён абяцаў адсекчы гэтай гідры галаву, разграміць мафіёзныя кланы. Вобраз непрымірымага змагара з карупцыяй стаў візітоўкай беларускага правадыра. Ён шмат разоў пераконваў расійскіх журналістаў у тым, што ў нас, у адрозненне ад Расіі, няма такой маштабнай карупцыі, таму што, маўляў, сам не краду і чыноўнікам спуску не даю. Падчас паездкі ў Слуцк у лютым гэтага года Лукашэнка заявіў: «З першых прэзідэнцкіх выбараў я выразна народу сказаў, што карупцыі ў Беларусі быць не можа».

Але прыведзеныя вышэй факты сведчаць пра крах усёй палітыкі барацьбы з карупцыяй. Як вядома, хабарніцтва — сусветная праблема. Сродкі барацьбы з ёй у свеце вядомыя. Гэта змяншэнне ролі дзяржавы ў эканамічным, сацыяльных, грамадскім жыцці. Гэта кантроль за ўладай з боку грамадства. Гэта моцная апазіцыя, грамадзянская супольнасць, незалежныя СМІ, якія сочаць за кожным крокам чыноўнікаў. Гэта прававая дзяржава ў выглядзе вяршэнства закону, незалежнага суду. Але нічога гэтага ў Беларусі няма.

Калі пасля 24 гадоў упартай і непрымірымай барацьбы з карупцыяй аказваецца, што яна, наадварот, квітнее і ўзмацняецца, гэта азначае толькі адно: сама беларуская мадэль прадукуе карупцыйныя працэсы. Бо сістэма, у якой дзяржава (то бок чыноўнікі) кантралююць усе сферы грамадскага жыцця, а ў эканоміцы цалкам дамінуе дзяржуласнасць, з’яўляецца ідэальнай для карупцыі. Гэта спараджае празмерную зарэгуляванасць усіх сацыяльных працэсаў. Не парушаючы правілы і інструкцыі, працаваць вельмі цяжка (калі наогул магчыма). У выніку многія віды дзейнасці, якія ў свеце з’яўляюцца легальнымі, законнымі, у Беларусі крыміналізаваныя.

Інакш кажучы, калі ў большасці краін свету адбываецца рынкавае самарэгуляванне сацыяльна-эканамічных працэсаў, то ў Беларусі ўсё рэгулюе чыноўнік. Вялікая ўлада бюракраты ў закрытай, непразрыстай сістэме, дзе любая інфармацыя абвяшчаецца сакрэтнай, пры адсутнасці вяршэнства закону, вядзе да таго, што карупцыя ў такой краіне запраграмаваная, закладзеная ў ёй генетычна. Бо кантроль з боку грамадства за чыноўнікамі не можа быць заменены кантролем за імі з боку кіраўніка дзяржавы. Нават калі апошні шчыра зацікаўлены ў перамозе над гэтым злом.

**Паводзіны самога Лукашэнкі, які заклікае ўсіх да сціпласці і служэння дзяржаве, не з’яўляюцца добрым прыкладам. Задавальненне любога капрызу за дзяржаўны кошт разбэшчвае чыноўнікаў больш, чым што іншае**

Звернем увагу на маральны бок справы. Варта адзначыць, што ў савецкія часы беларуская наменклатура была самай сумленнай у СССР. У тым сэнсе, што яна шчыра верыла ў афіцыйную ідэалогію і спрабавала добрасумленна рэалізаваць яе пастулаты ў рэспубліцы. Тут не было такой карупцыі, як у Сярэдняй Азіі, Закаўказзі, Маскве ці Краснадары. Госці, якія прыязджалі сюды, са здзіўленнем казалі: у вас тут сапраўды існуе «савецкая ўлада». У пэўным сэнсе ў свядомасці партыйнай, дзяржаўнай, гаспадарчай наменклатуры прысутнічала місія служэння ці то народу, ці партыі, ці нейкай вялікай ідэі.

У пацвярджэнне гэтай версіі сведчыць той факт, што беларуская кіроўная эліта ў пачатку 1990-х гадоў так і не наважылася хутка правесці наменклатурную прыватызацыю, хоць і мела такую магчымасць, бо ў яе была ўся ўлада. Хоць Лукашэнка любіў разважаць пра існаваўшую тады ўсеагульную, усёабдымную карупцыю, мафію, але насамрэч асноўныя эканамічныя рэсурсы захаваліся ў руках дзяржавы.

Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі створаная ім сацыяльная мадэль напачатку дэманстравала пэўны поспех. Што дало падставу кіраўніку казаць пра перавагу беларускага эканамічнага і палітычнага ладу. Маўляў, мы не разрабавалі народнае багацце, як ва Украіне ці Расіі, Беларусь — эканамічны тыгр Усходняй Еўропы, мы ўпершыню ў свеце будуем «дзяржаву для народа» і іншае. І гэта адпаведным чынам уплывала на псіхалогію чыноўнікаў. Місія служэння часткова вярнулася ў наменклатурнае асяроддзе.

Але калі беларуская сацыяльная мадэль уступіла ў стадыю крызісу, то ўсё паступова пачало мяняцца. Прычым, маштаб праблем чыноўнікам больш бачны, чым звычайнаму абывацелю. Дэградацыі лукашэнкаўскай сістэмы спадарожнічае маральная дэградацыя кіроўнай эліты. Калі ўсё валіцца — ад эканомікі да хакея, — які сэнс у місіі служэння? Адна справа — служыць краіне, і зусім іншая — служыць гаспадару. Матывацыя крыху іншая.

Сітуацыя нагадвае тую, якая была ў апошні час існавання савецкай сістэмы. Чыноўнікі разважалі, што калі сістэма, якой служылі, развальваецца, то варта падумаць пра сябе. І тады ў СССР былыя партыйныя функцыянеры хутка канвертавалі ўладу ў багацце.

У 1990-я гады, пакуль рынкавыя адносіны былі неразвітыя, у Беларусі, у адрозненне ад Расіі і Украіны, не было сваіх алігархаў, існавала вялікая сацыяльная роўнасць. А за апошнія 10–15 гадоў вырас клас беларускіх мільянераў, якія сваім ладам жыцця спакушаюць чыноўнікаў. І тыя прывілеі, якія ім дае Лукашэнка (катэджы ў Драздах і іншых наменклатурных пасёлках), чыноўнікаў ужо не задавальняюць. Яны пачынаюць думаць: а чым я горш за Чыжа ці Шакуціна?

Акрамя таго, паводзіны самога Лукашэнкі, які заклікае ўсіх да сціпласці і служэння дзяржаве, не з’яўляюцца добрым прыкладам. Задавальненне любога капрызу за дзяржаўны кошт, ад 12 рэзідэнцый да правядзення штогадовага міжнароднага хакейнага турніру імя самога сябе, разбэшчвае чыноўнікаў больш, чым што іншае.

Як вядома, рыба гніе з галавы. Бо як толькі гаворка заходзіць пра карупцыю, адразу ўзнікае пытанне: за які кошт вышэйшыя чыноўнікі пабудавалі дарагія катэджы ў Драздах, Вяснянцы і іншых падобных пасёлках?

Таму карупцыя і квітнее. Паводле маіх падлікаў, у Беларусі існуе цэлых 9 (дзевяць!) дзяржаўных органаў з правам аператыўна-вышуковай дзейнасці. І не спраўляюцца.

Акрамя таго, барацьба з карупцыяй, якую пастаянна ажыццяўляе Лукашэнка, з’яўляецца сродкам кантролю над наменклатурай, дзеля ўтрымання яе на кароткім ланцужку. Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму сіла і аўтарытэт вярхоўнага кіраўніка ў чыноўніцкім асяродку ў значнай ступені вызначаецца узроўнем рэпрэсіўных акцый супраць кіруючай эліты. Без іх бюракратыя выйдзе з-пад кантролю і ператворыцца ў самастойную палітычную сілу з уласнымі інтарэсамі, якая дзейнічае аўтаномна ад «бацькі», і нават дыктуе яму сваю волю. Так было ў СССР у часы Брэжнева і збольшага ўжо ў незалежнай Беларусі ў перыяд праўлення Кебіча. Прычым, кампанію чыстак трэба ладзіць перыядычна, каб кожны чыноўнік увесь час адчуваў дамоклаў меч над галавой. Таму ўсе чыноўнікі і гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах перманентных рэпрэсій з боку кантралюючых органаў.

Таксама барацьба з карупцыяй з’яўляецца бяспройгрышнай тэмай для электарату ў любыя часы. Народ не любіць начальнікаў, і гатовы пляскаць у ладкі, калі іх б’юць. Схема «цар добры, баяры дрэнныя» працягвае працаваць.

Таму ў доўгай барацьбе Лукашэнкі з карупцыяй перамог мацнейшы. То бок, карупцыя.

# Навінкі: Пятае аддзяленне

Мікалай ДЗЯДОК

**17-гадовая жыхарка Мінскай вобласці Яна прайшла шлях ад затрымання на Дні Волі–2017 да дыягназу «эпілепсія» і псіхіятрычнай лякарні ўсяго за 10 месяцаў. У інтэрв'ю яна дзеліцца з НЧ тым, што пабачыла і адчула.**

## Ананімная кансультацыя без права на ананімнасць

***— З чаго ўсё пачалося?***

— Пэўны час я наведвала псіхолага, бо мела шэраг праблем, і ўрэшце яна мне прапанавала разам з ёй схадзіць да псіхіятра. У мяне былі праблемы ва ўзаемаадносінах з людзьмі, таксама ў мяне на руках пачалі з'яўляцца парэзы, і я не магла ўзгадаць, як іх сабе нанесла.

Я пайшла на ананімную кансультацыю ў цэнтр псіхіятрыі і наркалогіі на вуліцы Петруся Броўкі ў Мінску. Мяне пачалі распытваць і прапанавалі легчы ў лякарню, у Навінкі. Потым у пакой зайшоў нейкі чалавек — як я зразумела, гэта быў нехта з кіраўніцтва, загадчык РНПЦ ці аддзялення. Ён узяў мой пашпарт, паглядзеў яго і паклаў на месца. Яго зацікавіла менавіта тое, што я была непаўнагадовая. Загадчык настойваў на тым, каб я паехала ў лякарню ў той жа дзень, ён казаў, што можа зрабіць так, што мяне адвязуць, трэба была толькі мая згода. Я адмовілася, бо ў мяне былі планы на выходныя, і вырашыла, што паеду туды пазней. Мне напісалі накіраванне, дзе было сказана: «Арганічны дысацыятыўны разлад асобы альбо эпілепсія». Мусілі накіраваць у неўралагічнае аддзяленне.

Я прыехала дамоў — і ў той жа вечар да мяне дахаты прыехалі два міліцыянты. Яны сказалі: ім паступіла інфармацыя з РНПЦ, што я нанесла сабе парэзы, і ім трэба праверыць, ці не была гэта спроба суіцыду. Мяне апыталі: навошта паехала ў лякарню, адкуль парэзы і гэтак далей. Калі я сказала, што не памятаю, адзін з міліцыянтаў рассмяяўся: маўляў, такога быць не можа. Другі ўзяў копію майго заключэння, уклеіў яе ў тэчку, а пасля сказаў: гэта не было спробай суіцыду, і пытанняў больш няма. Яны развіталіся і сышлі.

Праз дзень я пайшла па лекарах, і мне цэлы дзень тэлефанаваў участковы Аляксандр Францкевіч і настойваў на сустрэчы: казаў, што яму трэба правесці размову. Калі я прыехала дадому, ён зноў мне патэлефанаваў. Мы сустрэліся ў школе, у пакоі дырэктара. Ён забраў мой тэлефон, сказаўшы, што яго «изымает», і дадаў, што ў маім доме праходзіць «осмотр» і што ён забраў адтуль два маіх ноўтбукі, кнігі і скрыню з лістамі. Пасля пачаўся допыт: спачатку ён запытаўся пра мае затрыманне 25 сакавіка 2017 года.

У той дзень я гуляла са сваёй сяброўкай у Парку Чалюскінцаў. Мы пабачылі на праспекце Незалежнасці шмат людзей. Дарога была перакрытая, мы не маглі прайсці, бо ў нас не было пашпартоў — без іх нікога не пускалі. Метро было закрытае. Пакуль мы думалі, як з'ехаць, да мяне, а потым да сяброўкі падышоў міліцыянт, схапіў за плечы і пацягнуў да аўтобусу. Я пачала ўпірацца, пытаца, чаму нас затрымліваюць. Падышоў другі міліцыянт, схапіў мяне за валасы і пацягнуў у аўтобус, дзе былі астатнія затрыманыя. Там ён некалькі разоў стукнуў мяне па галаве, залез мне ў заплечнік і ў кішэні, а пасля штурхнуў да астатніх затрыманых. Магчыма, пасля гэтых удараў у мяне ўсё і пачалися...

***— І пра гэта цябе распытваў участковы ў школе?***

— Так, гэта было самае першае пытанне, якое ён задаў: «Чаму цябе затрымалі 25 сакавіка?» Я не разумела, якім бокам гэта датычыць маіх парэзаў, але ён працягваў распытваць: пра маіх сяброў у Мінску, чым я там займаюся. Потым пры дырэктары пачаў расказваць пра змест маіх асабістых лістоў.

***— А што гэта за лісты?***

— Звычайныя папяровыя лісты, я перапісваюся з дзяўчынкамі з іншых краін: з Украіны, з Расіі. А ён пачаў распытваць пра іх змест, з чаго я зразумела, што ён іх ужо прачытаў.

Адзінае пытанне, якое было больш-менш «у тэму» — ці знаходжуся я ў нейкіх забароненых групах «УКантакце», кшталту «Сіні кіт». Яшчэ яго вельмі цікавіла, адкуль я ўзяла кніжкі: «Анархія працуе» Пітэра Гелдэрлоаса, «Запіскі рэвалюцыянера» Крапоткіна, Эрыха Фрома... Я сказала, што там ёсць штамп бібліятэкі, і ён можа паглядзець. Ён запытаўся: «А дзе гэта такая бібліятэка?» Я адказала, што ён чалавек адукаваны, і мусіць гэта ведаць.

Дырэктар падчас гэтага насміхаўся, урываўся ў размову і разам з Францкевічам задаваў пытанні. Было даволі непрыемна. Калі я прыйшла дадому, то сапраўды недалічылася ноўтбукаў, скрыні з лістамі і некаторых кніг. Я была ў моцным стрэсе.

***— А як твая маці на гэта ўсе адрэагавала?***

— Калі прыйшоў міліцыянт, паказаў ёй нейкую пастанову з пракуратуры, з якой яна нават не ўзяла копію. І пералік вынятых рэчаў таксама не зняла.

***— Пасля «ананімнай» кансультацыі шмат людзей даведалася пра тваю хваробу?***

— Акрамя маёй маці, міліцыянеры, дырэктар. Апошні, калі я ўжо лягла ў лякарню, пачаў расказваць усім, што «яна ляжала ў вар'ятні» — яму гэта было вельмі смешна. Урэшце пра гэта дазналася ўся школа, практычна ўвесь пасёлак. Ён маленькі, і ўсе адзін аднаго ведаюць. Маці спрабавала сварыцца з дырэктарам, але ён нават не браў слухаўку.



**Я пайшла на ананімную кансультацыю ў цэнтр псіхіятрыі і наркалогіі на вуліцы Петруся Броўкі ў Мінску. У пакой зайшоў нейкі чалавек, узяў мой пашпарт, паглядзеў яго і паклаў на месца. І пасля «ананімнай» кансультацыі шмат людзей даведалася пра маю хваробу**

## «Я спужалася, бо падумала, што так робяць з усімі»

— Пасля выходных я паехала ў Навінкі. Мяне зарэгістравалі, паклікалі ў кабінет дзяжурнага лекара. Ён пачытаў маё накіраванне, нахмурыў бровы і сказаў паказаць руку. Я паказала, ён запытаўся: «Адкуль гэта?» Я адказала, што не памятаю, і менавіта таму звярнулася да псіхіятра. Тады ён моўчкі пачаў нешта пісаць у заключэнні.

За мной прыйшоў мужчына — на выгляд даволі добры і вясёлы, і адвёў мяне за жалезныя дзверы. Я пабачыла, як мужчын у суседнім пакоі пераапранаюць у аднолькавыя піжамы — мяне гэта моцна спужала, і я зразумела, што і зараз мяне апрануць у такую ж. Мне сказалі распрануцца да майткоў — нават станік зняць, дазволілі пакінуць толькі шкарпэткі, тапкі і трэнікі, апранулі ў халат. Пасля супрацоўніца пераглядзела мае рэчы. Шмат што было нельга: лыжкі, відэльцы, тэлефон, усё, што з дратамі. Кніг дазволілі ўзяць усяго некалькі, дазволілі асадкі і алоўкі. Усё астатняе давялося аддаць майму хлопцу, які мяне прывёў. Тады я канчаткова зразумела, што гэта будзе закрытае аддзяленне, і пачала плакаць. Мой хлопец мяне супакойваў, але гэта не дапамагала — я плакала яшчэ больш.

Урэшце, за мной прыйшла медсястра. Мяне і майго хлопца павялі ў пятае аддзяленне. Усю дарогу я плакала. Нас завялі за жалезныя дзверы без ручак, якія мяне дагэтуль пужаюць. Там былі месцы для наведвальнікаў — невялічкі пакойчык, дзе нас з хлопцам і разлучылі.

Мяне зноў апыталі наконт маіх парэзаў, яшчэ раз абшукалі, узялі пакет з кніжкамі, асадкамі і алоўкамі і сказалі, што ў назіральную палату і гэта нельга. Рэчы паклалі ў шафу ля медсястры — у палаце не было нават тумбачак. Каля палаты стаяла крэсла, на якім сядзела санітарка, яна нікому не дазваляла сыходзіць далей 20 метраў ад палаты.

У той жа дзень я назірала такую сцэну: жанчына, не ведаю, што ў яе было, — яна ўвесь час шукала нажніцы, — яна адышла далёка ад палаты, амаль да выхаду. Дзве санітаркі прывалаклі яе назад і прывязалі да ложку за рукі, ногі і торс. Яна крычала, прасіла яе адвязаць, казала, што ёй балюча. Але ў адказ санітаркі толькі крычалі на яе. Я спужалася, падумала, што так робяць з усімі.

Як скончыўся ціхі час, мяне сустрэла Рыта, пацыентка, якая прапанавала мне цёплай гарбаты. Рыта ляжала там ужо не першы раз, як я зразумела, яна прыходзіла туды сама, бо ў яе дома праблемы. Яна рэзала рукі — і прыходзіла ў гэтае аддзяленне, і ўжо добра там усё ведала. Потым падышла Хрысціна, якая была там пяць месяцаў. Пасля да нас далучылася Света, якой было ўсяго 15 гадоў. Света спрабавала звесці рахункі з жыццём, наелася таблетак. У лякарні яна білася галавой аб сцяну, за што і трапіла ў назіральную палату другім разам.

***— Як цябе там лячылі?***

— На наступны дзень мяне паклікалі да доктара — гэта была загадчыца, якая пачала распытваць мяне пра мае праблемы. Размаўлялі мы доўга, каля гадзіны — яна была першай, хто распытаў мяне пра ўсё ў падрабязнасцях. А лячылі мяне фенібутам. А таксама парацэтамол і амбраксол — бо я там прастыла.

***— А чым ты днямі там займалася?***

— Урэшце ў мяне з'явіўся доступ да кніжак. Чытала, размаўляла з Хрысцінай, Светай і Рытай. Размалёўвалі размалёўкі «антыстрэс» — добра забіваюць час.

Яшчэ часам глядзелі тэлевізар — звычайныя беларускія каналы. Я паглядзела там шмат добрых фільмаў, але яны ўсе ішлі ўвечары, і трэба было паспяваць паглядзець іх да адбою, які быў у 22 гадзіны.

## «На вуліцу толькі дарослым»

***— Ёсць стэрэатып пра тое, што ў псіхіятрычных лякарнях ляжаць неадэкватныя, сацыяльна дэзаптаваныя і агрэсіўныя людзі...***

— Жанчына з галюцынацыямі, якую я бачыла, калі мяне прывезлі, была, бадай, адзінай, хто мог нешта неадэкватнае зрабіць. Але яна нікога не біла, ні з кім не канфліктавала.

Увогуле, людзі там намагаюцца падтрымаць адзін аднаго. Калі кагосьці не выпісвалі, вакол гэтага чалавека збіралася шмат людзей, якія стараліся падтрымаць: абдымалі, прыносілі прысмакі... Кожны разумеў, як гэта — калі цябе не выпісваюць.

***— Чаму цябе выпісалі ўсяго праз тыдзень?***

— Мая доктарка зразумела, што ў мяне няма схільнасці да суіцыду. У панядзелак мяне адвялі да намесніка загадчыка лякарні. Гэта быў першы раз за тыдзень, калі я выйшла на вуліцу: сонейка, снег яшчэ не сышоў, усе зіхацела...

***— На вуліцу не выпускалі?***

— Выпускалі толькі паліць — дарослых. І па раскладзе, 7 ці 8 разоў на дзень. Мы бачылі вуліцу толькі ў акенца. Нейкая сувязь са знешнім светам увогуле была забароненая. Мабільны тэлефон нельга, на ўсё аддзяленне — адзін стацыянарны тэлефон, па якому можна паразмаўляць, і той праслухоўваецца.

***— Ты правяла ў лякарні тыдзень — ці знікла твая праблема?***

— Праз нейкі час усё паўтарылася. Толькі парэзы былі ўжо на нагах. Так што мая праблема нікуды не знікла.

Выпадак з Янай мы папрасілі пракаментаваць **Сяргея Драздоўскага, дырэктара офіса па справах людзей з інваліднасцю.**

— Гісторыя дастаткова складаная. Рэч у тым, што дзяўчына — непаўнагадовая.

Калі казаць пра экспертызу і пастаноўку дыягназу, то ў Беларусі ўся медэкспертыза — дзяржаўная. Існуе камітэт дзяржэкспертызы, і любыя органы кіруюцца адсоткаў на дзеяноста вынікамі гэтых экспертыз. Сумневы бываюць рэдка. Дзяўчына можа не пагаджацца з дыягназам, адмаўляцца ад лекара і настойваць на іншым лекары, але трэба разумець, што гэта — адна дзяржаўная сістэма, і карпаратыўная салідарнасць даволі высокая.

Па прымусовых мерах закон дае дастаткова шырокія паўнамоцтвы лекарам. Калі яны бачаць, што чалавек знаходзіцца ў стане, небяспечным для сябе і навакольных, маюць права забраць яго і далей глядзець наконт лячэння. Аднак, сыходзячы з таго, што яна непаўнагадовая, усе рашэнні, датычныя яе шпіталізацыі і агляду, мусілі прымацца як мінімум толькі з дазволу яе маці.

Тое, што адбывалася ў Навінках, — звычайная фармальная працэдура. Так напісана ў пратаколе: распрананне, дагляд, каб не было колюча-рэжучых прадметаў, бо лекар выпісаў ёй сур'ёзны дыягназ. У Навінках так робіцца — і гэта заўсёды стрэсавая сітуацыя для чалавека.

Што датычна ананімнасці кансультацыі — у законе аб псіхіятрыі ёсць указанне на выпадкі, калі яе можна парушаць, напрыклад, з меркаванняў бяспекі. Гэта не значыць, што лекар мусіць паведамляць дыягназ, гэта адбываецца зусім іншым спосабам. Не міліцыя павінна была прыязджаць, а спецыяліст, тэрапеўт: наведаць, паглядзець, аказваць дапамогу.

Тут ускрываецца шмат відавочных парушэнняў: тое ж паведамленне аб дыягназе — рэч недапушчальная. І тое ж абыходжанне з чалавекам без удзелу маці...

# Знаёмцеся, гэта яны забудоўваюць Курапаты

**Хацелася б яшчэ даведацца, хто дазволіў гэту забудову насуперак рашэнню пракуратуры**

Дзяніс ІВАШЫН

**У гэтым расследаванні, здзейсненым на падставе адкрытых крыніц інфармацыі і выкарыстання звестак з дзяржаўных банкаў дадзеных, выяўленая большасць ключавых асобаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да стварэння рэстарацыі «Паедзем паядзім» у ахоўнай зоне нацыянальнага мемарыялу «Курапаты».**

Рэстаран «Паедзем паядзім» абвясціў пра сваё адкрыццё акурат у 30-ю гадавіну з моманту раскрыцця праўды пра Курапаты. Адбылося гэта нягледзячы на пастановы Генеральнай пракуратуры і Міністэрства культуры, ухваленыя ў 2012 годзе, у якіх вызначаная катэгарычная забарона будоўлі, прыцягненне да адказнасці чыноўнікаў, што здзейснілі правапарушэнні, выкарыстанне захадаў для ліквідацыі парушэнняў і вырашэння лёсу пабудовы ў адпаведнасці з законам.

### «БелРэстІнвест»

Замоўцам будоўлі ад пачатку з'яўляецца Супольнае таварыства з абмежаванай адказнасцю (СТАА) «БелРэстІнвест». Гэтая кампанія не толькі валодала ўсёй інфармацыяй, што да месца масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, але і нібыта распрацавала комплекс мерапрыемстваў па стварэнні мемарыялу «Курапаты», які накіравала для ўхвалення ў Міністэрства культуры. Гэты крок, пэўна, быў скіраваны, каб сцішыць розгалас і грамадскае абурэнне з-за незаконнай будоўлі. У рэчаіснасці ж быў рэалізаваны толькі праект забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу, а пра мемарыял ніхто ўжо нават і не згадвае.

Паводле дадзеных з Адзінага дзяржаўнага рэгістру юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў (АДР), кампанія «БелРэстІнвест» зарэгістраваная Мінскім гарвыканкамам 02.09.2009 года з юрыдычным адрасам: Мінск, завулак Казлова, д. 5а, офіс 3а. Запомніце гэты адрас, ён будзе фігураваць тут яшчэ шмат разоў.

Дырэктарам кампаніі з'яўляецца Ярмоленкаў Андрэй Феліксавіч. Дата рэгістрацыі супадае з пачаткам незаконнага будаўніцтва. Адсутнасць адкрытай інфармацыі на працягу амаль 10 гадоў пра іншую дзейнасць кампаніі дае падставу меркаваць, што яна была створаная акурат для рэалізацыі праекту забаўляльнага аб'екту ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 1930–1940 гадоў ва ўрочышчы Курапаты».

То бок, можна меркаваць, што інвестары загадзя прадугледзелі магчымыя будучыя фінансавыя і рэпутацыйныя страты і паспрабавалі іх мінімі-



Леанід Зайдэс



Леон Сагальчык

заваць праз стварэнне новай юрыдычнай асобы.

### «КварталМЗС»

Хто ж стварыў «БелРэстІнвест»? Паводле выпісу з АДР, 50% кампаніі належыць СТАА «КварталМЗС», 33,3% — амерыканскай кампаніі з абмежаванай адказнасцю Lenthon Realty LLC і 16,7% — закрытай акцыянернай кампаніі з абмежаванай адказнасцю Bealcy Investments Ltd., зарэгістраванай на Кіпры.

Такім чынам, галоўным уласнікам «БелРэстІнвест» з'яўляецца кампанія СТАА «КварталМЗС», зарэгістраваная Мінгарвыканкамам 20.05.2004. Характэрна, што яна мае практычна той жа юрыдычны адрас, што і «БелРэстІнвест» — Мінск, завулак Казлова 5а, офіс 3а. На сайце Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва пазначаная асноўная дзейнасць СТАА «КварталМЗС» — агульнае будаўніцтва будынкаў. У адкрытым



Ігар Вараб'ёў



Барыс Сурыс



Аркадзь Ізраілевіч

доступе адсутнічае інфармацыя пра рэалізаваныя праекты гэтай кампаніі, што ёсць даволі дзіўным, улічваючы, што яна дзейнічае на працягу ўжо 14 (!) гадоў.

Але ў суседнім будынку зарэгістраваная кампанія амаль з аднайменнай назвай — ТАА «КварталМЗС-Буд». Яна ўнесеная ў АДР паводле рашэння Мінгарвыканкаму з 30.12.2011 і месціцца на завулку Казлова, будынак 7б, пакой 300. У гандлёвых базах дадзеных кампанія фігуруе як сталічны забудоўшчык жылой і нежылой



Аліна Сурыс




Антон Меліхаў




Сяргей Левін

нерухомасці з ажыццяўленнем дзейнасці ў сферы долевага будаўніцтва. Характэрна, што ў некаторых інфармацыйных рэсурсах «КварталМЗС-Буд» падае для патэнцыйных кліентаў адрас кампаніі, які мае «КварталМЗС». Так, у базе будаўнічых аб'ектаў і тэндэраў «Будаўнічая біржа» (stroybirzha.by) кампанія пазначыла ўжо вядомы нам адрас — Мінск, завулак Казлова, 5а.

У 2014 годзе «КварталМЗС-Буд» пачаў будаўніцтва ў Мінску 15-павярховага жылога дому з памяшканнямі грамадскага і адміністратыўнага прызначэння і падземнай гаражнай стаянкаю ў квартале вуліц Лынькова — Глебкі — праезд Масюкоўшчына. Аб'ект атрымаў назву «Жылы комплекс «Паркавы», які кампанія падае ў якасці свайго галоўнага праекту ў сферы будаўніцтва жылой нерухомасці. Цікава, што ў праектнай дэкларацыі з чэрвеня 2016 года пазначана, што кампанія на працягу трох гадоў да гэтага не здзяйсняла будаўніцтва жылых дамоў. Цалкам магчыма, што кампанія «КварталМЗС-Буд»



Святлана Дубкова

была створаная пад рэалізацыю гэтага праекту.

196-кватэрны дом быў здадзены ў эксплуатацыю ў 2016 годзе і атрымаў адрас Лынькова, 35. Забудоўшчык «КварталМЗС-Буд» прапануе кватэры ў ім з сярэднім коштам 1100 долараў за квадратны метр.

Пасля пабудовы дому ў чэрвені 2016 года разгарэўся канфлікт, звязаны з рашэннем мясцовых уладаў пабудаваць аўтамабільную паркоўку на 99 машына-месцаў у зялёнай зоне мікрараёна ўздоўж вуліцы Цімашэнкі. Цікава, што паводле слоў мясцовай актывісткі Ларысы Данілюк, якая прысутнічала на грамадскіх слуханнях па меркаванаму ўладкаванню аўтастаянкі, кампанія-забудоўшчык «КварталМЗС-Буд» прапаноўвала за ўласныя грошы выканаць комплекснае абсталяванне зялёнай зоны, аднак змены ў праект былі ініцыяваныя адміністрацыяй Фрунзенскага раёна Мінска.

На месцы зялёнай зоны павінны былі пабудаваць дом, аднак жыхары тады здолелі яе захаваць і абараніць ад знішчэння. Ушчыль-

ненне мікрараёну Масюкоўшчына зазнала досыць актыўны супраціў з боку мясцовых жыхароў, бо нават на афіцыйным узроўні прадстаўнікі ўлады сцвярджалі, што раён мае недастатковую колькасць зялёных зонаў. Улады былі вымушаныя саступіць, здзейсніць значнае карэктаванне генеральнага плану і адмовіцца ад некаторых запланаваных пабудоваў. Аднак дом кампаніі-забудоўшчыка «КварталМЗС-Буд» усё ж быў пабудаваны.

Гэта ўсё вельмі нагадвае будаўніцтва «Бульбашъ-холу» ў ахоўнай зоне «Курапатаў», а абяцанне забудоўшчыка стварыць мемарыяльны комплекс можна параўнаць з задэклараванымі планамі абсталявання зялёнай зоны ля збудаванага дому ў Масюкоўшчыне і пабудове замест гэтага аўтастаянкі. У абодвух выпадках забудоўшчык атрымаў вялізную пратэкцыю з боку ўладаў. Мажліва, не без карупцыйнага чынніка.

На сайце адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска выяўленая справаздача што да ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе запланаванай гаспадарчай дзейнасці ў выніку будаўніцтва жылога комплексу «Паркавы». У пункце 2.2 справаздачы пададзеная інфармацыя пра тое, што кампанія-забудоўшчык ТАА «КварталМЗС-Буд» створаная ў выніку рэарганізацыі СТАА «КварталМЗС» у форме выдзялення. Такім чынам, дзве кампаніі сапраўды наўпрост звязаныя.

Кіраўніком ТАА «КварталМЗС-Буд» з'яўляецца Логвін Вольга Віталеўна. Прычым, у якасці кантактных дадзеных для сувязі з кампаніяй «КварталМЗС-Буд» Вольга Логвін падае электронную пошту і нумар тэлефону ТАА «ІВ», якая фігуруе як «Група кампаніяў ІВ». Гэтыя дадзеныя кампанія падае нават на афіцыйнай старонцы адміністрацыі Фрунзенскага раёна ў паведамленні пра правядзенне грамадскіх слуханняў. ТАА «ІВ» зарэгістраваная Мінгарвыканкамам 21.04.1992 г. з юрыдычным адрасам у тым жа будынку, што і кампанія Вольгі Логвін, — на завулку Казлова, 7б. Такім чынам, мажліва і «БелРэстІнвест», і «КварталМЗС», і «КварталМЗС-Буд» маюць непасрэднае дачыненне да «Групы кампаніяў ІВ», як канцавога бенефіцыяра.

#### Кампанія «ІВ»

Кампанія «ІВ» з'яўляецца адным з буйнейшых мінскіх дэвелопераў, яна рэалізавала на гэты момант больш за два дзясяткі будаўнічых праектаў. З моманту ўтварэння ў 1992 годзе Кампанія «ІВ» здала ў эксплуатацыю агулам больш за 70 тысяч квадратных метраў плошчаў — гэта, напрыклад, бізнес-цэнтры ў Мінску «Вікторыя-Плаза» (на вуліцы Платонава) і «Парк-Плаза» (вуліца Лагойскі тракт), нядаўна збудаваны бізнес-цэнтр на вуліцы Валгаградскай; чатыры офісныя будынкі на завулку Казлова (у адным з іх і знаходзіцца «КварталМЗС-Буд»); жылы дом на вуліцы Дзімітрава і 10-павярховы на завулку Казлова ў Мінску, 19-павярховыя дамы ў Ждановічах, АЗС, прадпрыемства па вытворчасці асфальтабетонных сумесяў і гэтак далей. Прыблізна трэціну са збудаваных плошчаў кампанія здае ў арэнду.

Уласнікам ТАА «ІВ» з'яўляецца Ізраілевіч Аркадзь Львовіч. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Мінску. Уваходзіць у топ–200 паспяховых і ўплывовых бізнесоўцаў Беларусі паводле версіі ej.by (займае зараз 98-ю пазіцыю). Апроч «Групы кампаніяў «ІВ» яму належыць таксама СЗАТ «Асфальтабетонны завод». Сярод актываў былі кампанія «МІГінвест», рэстарацыі «Баржа» і «Саграссіо». Раней ён таксама займаўся нафтатрэйдынгам: адзін з яго актываў — кампанія «ІВ-Інвест» — была досыць актыўнай у сістэме дзяржгандлю нафтапрадуктамі.

Характэрна, што «МІГінвест» планавала пабудаваць забаўляльны цэнтр Park Avenue на беразе Свіслачы побач з паркам Горкага. Супраць будаўніцтва аб'екту ў ландшафтна-рэкрэацыйнай зоне тады падпісаліся 1,4 тысячы чалавек. Апроч гэтага Аркадзь Ізраілевіч у якасці прадстаўніка зарэгістраванай у Вялікабрытаніі South Western Investments фігураваў у канфлікце па спробе будаўніцтва 15-павярховага бізнес-цэнтру разам з будынкам банку і адкрытай аўтастаянкай на вуліцы Заслаўскай. Інвестар быў гатовы ўкласці ў праект 17,5 мільёна долараў, аднак сутыкнуўся з актыўным супраціўам мясцовых жыхароў, якія абаранялі зялёную зону свайго раёна.

Неяк Аркадзь Ізраілевіч меў канфлікт з начальнікам упраўлення інвестыцый камітэту эканомікі Мінгарвыканкама Мікалаем Ахраменкам, які адбыўся 19 красавіка 2013 году ў мінскай рэстарацыі «Тусэ». Па словах бізнесоўца, чыноўнік паводзіў сябе з недастатковай павагай да яго. З гэтай прычыны Ізраілевіч нават скардзіўся старшыні Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову. Гарадскія ўлады правялі службовую праверку, у выніку якой абвінавачанні бізнесоўца былі адкінутыя.

А зараз самае цікавае: прадстаўнікі камітэту эканомікі заявілі, што гаспадарамі рэстарацыі «Тусэ» з'яўляюцца партнёры Ізраілевіча, што, «паводле меркавання абвінавачага боку, спрычыніліся да правакацыйных паводзінаў бізнесоўца, які здзейсняў фотаздымку чыноўнікаў без іх дазволу і адчуваў сябе гаспадаром становішча».

Пакінем перыпетыі адносінаў чыноўнікаў і бізнесоўцаў для іншага матэрыялу. Але кім з'яўляюцца партнёры Аркадзя Ізраілевіча па «Тусэ» і ці датычныя яны да незаконнага будаўніцтва забаўляльнага комплексу ва ўрочышчы Курапаты?

#### «Белнаватэкс груп»

Клуб-рэстарацыя «Тусэ» належаў кампаніі ТАА «Белнаватэкс груп», якая валодае некалькімі рэстарацыямі і кавярнямі ў Мінску — «Гранд Кушавель» (непадалёк Мінск–Арэны) і «theView», якія рэпрэзентуюць уласны брэнд кампаніі — «Наша рэстарацыйная група». Верагодна, ёй належыць і кавярня «Лета» на Заслаўскім вадасховішчы, якая раней фігуравала з назвай «Бульбашъ-пляж». Дырэктарам кампаніі з'яўляецца Вараб'ёў Ігар Алегавіч. Паводле дадзеных з АДР, «Белнаватэкс груп» зарэгістравана Мінгарвыканкамам 12.08.2005 г., а яе суўладальнікамі з'яўляюцца: Зайдэс Леанід Лейбавіч (32%), грамадзянка Ізраілю Сурыс Аліна (24,5%) і, акцэнтуем увагу, — амерыканская кампанія Lenthon Realty LLC (29%) і Bealcy Investments Ltd. (14,5%), зарэгістраваная на Кіпры.

Дзвюм апошнім належаць 50% ужо згаданай кампаніі «БелРэстІнвест», што збудавала «Бульбашъ-хол», а яе меркаваным асноўным уласнікам, як мы высветлілі, з'яўляецца кампанія «ІВ» Аркадзя Ізраілевіча.

Заява мінскіх чыноўнікаў пра тое, што гаспадары рэстарацыі «Тусэ» і Аркадзь Ізраілевіч ёсць партнёрамі, пацверджана дакументальна. Ускосна пацвярджае шчыльныя партнёрскія сувязі і шэраг іншых фактаў. Напрыклад, дырэктар кампаніі «БелРэстІнвест» Андрэй Ярмоленкаў у красавіку 2014 года прысутнічаў у складзе камісіі па правядзенні рэкламнай гульні, арганізаванай ТАА «Белнаватэкс груп» у сваёй сетцы рэстарацыяў. Правілы правядзення гэтай гульні ўхваліла Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю, пасля чаго іх надрукавала «Звязда».

Асноўным уласнікам «Белнаватэкс груп» і, як мы ўжо ведаем, партнёрам Аркадзя Ізраілевіча па бізнесу з'яўляецца Леанід Лейбавіч Зайдэс, 1964 г.н., родам, меркавана, са Слуцку. Характэрна, што яго імя ўжо фігуравала ў СМІ раней — у сувязі з вялікім грамадскім рэзанансам вакол будаўніцтва «Бульбашъ-хола».

Другая суўладальніца «Белнаватэкс груп» — грамадзянка Ізраілю Аліна Сурыс, якая, паводле дадзеных інтэрнэт-выдання «Наша Ніва», уласнік толькі фармальны, а самім бізнесам займаецца яе сын — Барыс Паўлавіч Сурыс. Вядома, што ён нарадзіўся ў Херсоне ў 1971 годзе, зараз жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу, мае ізраільскае грамадзянства. Валодаў пакетам акцыяў харчовага холдынгу «Сан Тры», які ў 2003 годзе быў прызнаны банкрутам з назапашанай сумай пазыкаў перад крэдыторамі ў амаль 10 мільёнаў долараў. Затым Сурыс ачольваў кампанію «Ахлама», якая была афіцыйным імпарцёрам «Гербалайф» у Расіі. У лютым 2005 года Павал Сурыс быў выкрадзены невядомымі, якія патрабавалі за яго вызваленне 2 мільёны долараў.

Характэрна, што Леанід Зайдэс і Барыс Сурыс таксама з'яўляюцца даўнімі партнёрамі і валодаюць шэрагам супольных міжнародных актываў. Ім належаць 70% польска-ўкраінскага холдынгу ТАА «МАГ-2000», зарэгістраванага ў 2000 годзе ў Кіеве. Паводле інфармацыі з афіцыйнага сайту кампаніі, яна займаецца вытворчасцю навагодніх і калядных тавараў, мае завод у Польшчы, у Кіеве і ў родным Зайдэсу Слуцку.

Супраць гэтай кампаніі ва Украіне распачатая крымінальная справа праз адзнакі крымінальнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 5 арт.15, ч.5 арт.191 КК Украіны. Следчыя падазраюць службовых асобаў ТАА «МАГ-2000» у раскраданні ў 2015 годзе бюджэтных грошай на суму 503 тысячы грыўняў (прыблізна 19500 долараў). Апроч гэтага вядома, што Леанід Зайдэс і Павал Сурыс валодаюць таксама 70% кампаніі ТАА «СК Б.Т.С.», зарэгістраванай у 1994-м у Кіеве. Кампанія займалася будаўніцтвам і грузаперавозкамі. Неадназова прыцягвалася да адказнасці праз здзейсненыя правапарушэнні на рынку каштоўных папераў. На гэты момант кампанія знаходзіцца ў стане спынення дзейнасці і мае станам на 01.05.2018 года падатковы доўг у суме 51 тысяча грыўняў.

#### Сяргей Левін

Сталымі партнёрамі Аркадзя Ізраілевіча і Леаніда Зайдэса, датычнымі наўпрост да незаконнага будаўніцтва ў Курапатах, з'яўляюцца кампаніі Lenthon Realty LLC і Bealcy Investments Ltd.

Амерыканская кампанія Lenthon Realty LLC валодае 33,3% у СТАА «БелРэстІнвэст» і 29% у «Белнаватэкс груп». Блогер Эдуард Пальчыс знайшоў падрабязную інфармацыю пра ўласнікаў гэтай кампаніі ў дзяржаўным рэгістры амерыканскага штату Ілінойс. Адным з іх з'яўляецца Леон Сагальчык, якому раней належала амерыканская фармацэўтычная кампанія Sagmel, Inc., што стварыла досыць буйны бізнес безрэцэптурных лекаў на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Расіі і Казахстану, яе профільныя актывы пазней набыла кампанія Bayer HealthCare. Леон Сагальчык, хаця і жыве ў ЗША, але мае інвестыцыйныя інтарэсы ў Беларусі.

У выніку расследавання выяўленае, што другі ўласнік Lenthon Realty LLC — Антон Меліхаў — з'яўляецца ў ЗША даволі вядомым бізнесоўцам і філантропам. Разам з Сагальчыкам ён заснаваў кампанію Sagmel, быў яе прэзідэнтам, а таксама стварыў некамерцыйныя арганізацыі Bright Future International і unite4:good foundation. Паходзіць з Мінску, у 1989 годзе пераехаў у ЗША.

Кампаніі Bealcy Investments Ltd. належыць 16,7% «БелРэстІнвест» і 14,5% «Белнаватэкс груп». Зарэгістраваная яна на Кіпры ў 2008 годзе. Паводле інфармацыі з базы дадзеных дзяржаўнай рэгістрацыі кампаніяў Кіпру, можна меркаваць, што яе рэгістрацыя здзейсненая на падстаўных асобаў, бо кожны з пададзеных дырэктараў афіляваны з больш чым 400 (!) кампаніямі. Характэрна, што Bealcy Investments Ltd. разам з Леонам Сагальчыкам, вядомым беларускім бізнесоўцам Сяргеем Левіным і іншымі суўладальнікамі кампаніі Lebortovo Capital Partners Ltd., інвеставалі 30 мільёнаў долараў у пабудову ў Асіповічах парфумава-касметычнай фабрыкі «Свабода», перайменаванай потым у «Сонца». Фабрыка вядомая перадусім праз стварэнне брэнду «Мара». Дарэчы, адзін з дырэктараў Bealcy Investments — Georgios Chr. Kirou — фігуруе ў якасці кіраўніка кампаніі у Lebortovo Capital Partners Ltd., а таксама ў актыве Сяргея Левіна — Lebortovo Investments Ltd. Можна зрабіць здагадку, што да Bealcy Investments Ltd. можа мець непасрэднае дачыненне сам Сяргей Левін.

#### ТАА «Амізбел»

Мінскія ўлады аддалі ў арэнду кампаніі «БелРэстІнвэст», афіляванай з Аркадзем Ізраілевічам і згаданымі вышэй замежнымі інвестарамі, досыць вялікую тэрыторыю сталічнай зямлі для будаўніцтва рэстарацыі. Паводле «НН», тэрыторыю з агульнай плошчай 1,2 гектара кампанія арандуе з канца 2007 года ў два этапы. Сума арэндных плацяжоў складае на год усяго 1401 долар 66 цэнтаў, дамова дзейнічае ажно да 2106 (!) года. Не кожны нават замежны інвестар можа пахваліцца падобнымі спрыяльнымі для развіцця бізнесу ўмовамі. Апроч гэтага выдзяленне ў арэнду зямлі з тэрыторыяй ахоўнай зоны можа сведчыць акурат пра значны карупцыйны складнік. Характэрна, што рэстарацыйную дзейнасць на базе збудаванага забаўляльнага комплексу здзяйсняе не «БелРэстІнвест» і не «Белнаватэкс груп», а апошні фігурант расследавання — кампанія ТАА «Амізбел».

Вядома, што яна зарэгістраваная паводле рашэння Мінгарвыканкама 16.05.2017 г. са статутным фондам 267.637 рублёў. Яе заснавальнікам і ўласнікам, паводле інфармацыі з АДР, на 100% з'яўляецца кампанія «Белнаватэкс груп». Паказальна, што кампанія створаная ўсяго праз некалькі месяцаў пасля перамогі грамадзянскай супольнасці ў канфлікце, звязаным са спробаю іншых інвестараў збудаваць у ахоўнай зоне Курапатаў бізнес-цэнтр. Падобныя схемы з «дыверсіфікацыяй» сродкаў у розныя актывы зазвычай выкарыстоўваюць, каб прадухіліць мажлівыя фінансавыя і рэпутацыйныя страты. Дзеля гэтага і рэгіструюць дадатковыя фірмы-«пракладкі». Дырэктарам «Амізбел» з'яўляецца Дубкова Святлана Анатольеўна, раней яна кіравала службай вытворчасці ў мінскім сеціве кавярняў «Cafe Garage».

Як бачым, вакол незаконна збудаванага забаўляльнага цэнтру ў Курапатах засяроджаныя супольныя інтарэсы, сілы і сродкі буйных уласнікаў як будаўнічага, гэтак і рэстарацыйнага бізнесу, якія апяруюць шматлікімі актывамі і значнымі фінансавымі рэсурсамі. Відавочна, што яны досыць паспяхова лабіруюць свае інтарэсы ў органах дзяржаўнага кіравання. Усё гэта, разам з пазіцыяй уладаў, можа спрычыніцца да дыскрэдытацыі і дэсакралізацыі нацыянальнага мемарыялу «Курапаты». Адзіны сапраўдны акцёр, які можа перашкодзіць гэтаму, — кансалідаваная і рашучая беларуская грамадзянская супольнасць.

**Вакол незаконна збудаванага забаўляльнага цэнтру ў Курапатах засяроджаныя супольныя інтарэсы, сілы і сродкі буйных уласнікаў як будаўнічага, гэтак і рэстарацыйнага бізнесу, якія аперуюць шматлікімі актывамі і значнымі фінансавымі рэсурсамі**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Творы Аркадага на экран!

У газеце «Нейтральны Туркменістан» (орган адміністрацыі туркменскага кіраўніка) апублікавана аб'ява для прадстаўнікоў культурнай супольнасці аб стварэнні кінатвору на базе адной з кніг Гурбангулы Бердымухамедава, якога таксама называюць Аркадаг (па-туркменску «Лідар»). Гаворка пра кнігу «Туркменістан — сэрца Вялікага Шаўковага шляху», што была выдадзеная ў кастрычніку 2017 года. Як і трэба было чакаць, на туркменскім кніжным рынку кніга адразу стала бестселерам, а яе назва — дэвізам 2018-га. Неўзабаве прэзентацыі кнігі прайшлі ў розных краінах СНД, Еўропы і ў Саудаўскай Аравіі. Па матывах апавяданняў, якія ўвайшлі ў выданне, упрыгожылі галоўную плошчу Ашхабада да Новага года. Лагічна, што з часам узнікла ідэя экранізаваць «Туркменістан — сэрца Вялікага Шаўковага шляху». Сцэнары фільму, дарэчы, можна дасылаць да 20 лістапада, аднак спяшацца не варта. Ведаючы таленты Бердымухамедава ва ўсіх сферах жыцця, няма сумневаў, што ў выніку ён сам напіша і сцэнар, які будзе прызнаны пераможцам конкурсу.

**Паводле туркменскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Майдан супраць Каталікоса

У Арменіі ніяк не спадае рэвалюцыйная хваля, выкліканая нядаўнім Майданам, што прывёў да ўлады апазіцыянера Ніколу Пашыняна. Пра сваё існаванне заявіла група актывістаў, якія выступаюць з патрабаваннем пазбавіць Гарагіна ІІ сану Вярхоўнага патрыярха і Каталікоса ўсіх армян. Актывісты абвінавачваюць духоўнага лідара ў тым, што ён брыдкасловіць, і ў дадатак займаецца бізнесам. Гледзячы па прэсе, за пратэстоўцамі стаяць некаторыя фракцыі армянскай царквы, што не задаволеныя цяперашнім Каталікосам. Напрыклад, адзін з актывістаў, які пачаў першым публічна патрабаваць зрынуць Каталікоса, быў у свой час пазбаўлены сану, прычым двойчы. З улікам рэвалюцыйнай атмасферы ў грамадстве, кіраўніцтва царквы пагадзілася сустрэцца з удзельнікамі пратэстаў, каб пасля рашуча адкінуць іх патрабаванні. Хаця большасць экспертаў лічаць, што цяперашні Каталікос утрымаецца на пасадзе, нічога выключаць нельга. У тым ліку таму, што ўлада вуснамі Пашыняна адмовілася падтрымліваць нейкі бок канфлікту.

**Паводле армянскай прэсы**

### НАМІБІЯ. Дэгерманізацыя ўсёй краіны

Улады афрыканскай Намібіі пачалі кампанію па барацьбе з нямецкай тапанімічнай спадчынай. У свой час — з 1884 па 1915 год — Намібія была нямецкай калоніяй, што адбілася на назвах вуліц. У прыватнасці, такіх назваў хапае ў сталіцы краіны — Віндхуку. Тут можна прайсціся па вуліцы імя Бісмарка, каб пасля павярнуць на вуліцу імя Шылера і гэтак далей. Амаль сто гадоў на гэта ніхто не звяртаў увагі, пакуль раптам пра тапаніміку не згадаў «камсамол» мясцовай урадавай партыі SWAPO. На думку «камсамольцаў», каланіяльным назвам у Віндхуку не месца, а вуліцы, якія былі названыя ў гонар немцаў, трэба пераназваць імёнамі змагароў за намібійскую незалежнасць. Аўтары ідэі перайменавання сцвярджаюць, што такая акцыя ўзмоцніць нацыянальную ідэнтычнасць насельніцтва. Улады ініцыятыву падтрымалі, аднак падчас яе рэалізацыі ўзніклі праблемы. Ніхто не ведае, што рабіць з вуліцамі, назвы якіх не маюць палітычнага падтэксту. Напрыклад, з каланіяльных часоў у Віндхуку ёсць вуліца імя славутага нямецкага кампазітара Баха. Як улады Намібіі будуць выходзіць з пікантнай сітуацыі, пакуль не вядома.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ШВЕЙЦАРЫЯ. Канец нейтралітэту?

У швейцарскім палітыкуме набірае папулярнасць ідэя скончыць з палітыкай нейтралітэту, якую краіна праводзіць ледзь не з часу заснавання дзяржавы. Такія думкі стымулявала, як ні дзіўна, вайна ў Сірыі, якую рэгулярна асуджвае швейцарскі парламент. Падчас дэбатаў некаторыя парламентарыі заклікалі калегаў задумацца, ці можна падобнымі паперкамі прымусіць бакі канфлікту распачаць дыялог. Ці не варта далучыцца да антытэрарыстычнай кааліцыі? Пры гэтым дэбаты пайшлі яшчэ далей. Шэраг палітыкаў кажа, што нейтралітэт на самай справе не з'яўляецца гарантыяй ад акупацыі. Тое, што Швейцарыя не была атакаваная ў часы Першай і Другой сусветных войнаў — гэта выключна шчаслівы выпадак. Пра гэта сведчыць лёс Бельгіі і Даніі, якія таксама абвясцілі нейтралітэт, аднак усё роўна былі захопленыя немцамі. Аднак самы цікавы тэзіс на карысць далучэння Швейцарыі да нейкага геапалітычнага блоку — актуальная сітуацыя ў свеце. Сцвярджаюць, што Еўрасаюз так ці інакш падзеліцца на два блокі краінаў — аматараў еўраінтэграцыі і яе праціўнікаў. Супрацьстаянне паміж гэтымі блокамі, маўляў, непазбежнае, і яго ахвярай можа стаць Швейцарыя, якая заклапочаная сваім нейтралітэтам.

**Паводле швейцарскай прэсы**

# Расія — гэта Аргенціна?

Алег НОВІКАЎ

**Чэмпіянат свету па футболе, што стартуе на гэтым тыдні ў Расіі, параўноўваюць з турнірам 1978 года ў Аргенціне, дзе на той час панавала вайсковая дыктатура. Ці маюць пад сабою глебу такія паралелі?**



Фота www.vix.com

Падабенства, напэўна, найперш выклікана вялікай палітызацыяй абодвух турніраў. І ў расійскім выпадку, і ў аргенцінскім, Кубак свету — важны інструмент для вырашэння шэрагу палітычных задач. Пуціну, відавочна, трэба за кошт футбольных трансляцый пазбавіць Расію іміджу краіны-ізгоя.

Прыкладна такая ж задача стаяла і перад генералам Хорхе Відэлай, які ў сакавіку 1976-га зрынуў прэзідэнта Ісабель дэ Перон (дарэчы, першую ў свеце прэзідэнта-жанчыну). Хунта адразу ўхапілася за тэму чэмпіянату. Не толькі таму, што статус футболу ў аргенцінскай масавай культуры цяжка пераацаніць. Па сутнасці, Мундыяль быў для генералаў унікальным і, магчыма, адзіным шанцам кансалідаваць грамадства, шматлікія сегменты якога працягвалі ў тым ліку і вайсковы супраціў путчыстам. Спадзяваліся ў Відэлы і на знешнепалітычныя рэпутацыйныя бонусы. Сам факт добрай арганізацыі і правядзення турніру павінен быў засведчыць, што рэжым больш-менш стабілізаваў сітуацыю пасля перавароту.

Праўда, у адрозненне ад Пуціна, аргенцінскім вайскоўцам было больш цяжка зрабіць патрэбную «карцінку». Пачаць можна з таго, што зрынутая вайскоўцамі прэзідэнтка Ісабель дэ Перон была настолькі заўзятай папулісткай, што нават лагатып чэмпіянату замовіла ў выглядзе свайго фірменнага жэсту — салют натоўпу дзвюма рукамі. Лога, што было зацверджана яшчэ ў 1974-м, безумоўна, утрымлівала небяспечны для дыктатуры сімвалічны складнік. Натуральна, генералы паспрабавалі яго змяніць, аднак аказалася позна — ва ўсім свеце актыўна ішоў гандаль сувенірамі з зацверджаным Ісабель дэ Перон лагатыпам. Давялося заплюшчыць вочы на небяспечную сімволіку.

Як і сёння Пуцін, аргенцінскія вайскоўцы ў 1978 годзе сутыкнуліся з пагрозай магчымага пераносу месца правядзення турніру праз парушэнні правоў чалавека. Прыкладна за год да старту высветлілася, што канцлагер для дысідэнтаў знаходзіцца ледзь не побач са стадыёнам, на якім будуць гуляць фінальны матч. Нідэрланды, чыя зборная была сярод фаварытаў чэмпіянату, афіцыйна дапусцілі магчымасць байкоту спаборніцтваў. Аднак, як і ў выпадку з Расіяй, у 1978 годзе вырашыць праблему дапамагло кіраўніцтва FIFA. Відэла асабіста наведаў офіс арганізацыі, каб паабяцаць, што ніякіх палітычных скандалаў падчас турніру не будзе.

Як вынік, паўстала пытанне ізаляцыі апазіцыі ад кантактаў з замежнымі рэпарцёрамі падчас чэмпіянату. Вырашалі яго часам вельмі арыгінальна. Адну з самых вялікіх праблемаў для хунты на той час уяўляў феномен «Маці з плошчы Мая» (Madres de Plaza de Mayo) — грамадскага руху аргенцінскіх маці, чые дзеці зніклі падчас хапуноў. Яны збіраліся на плошчы Мая кожны чацвер, маўклівa дэманструючы пратэст супраць рэпрэсій. Каб іншаземцы не сталі сведкамі падобных флэшмобаў, у Відэлы прыдумалі незвычайны фокус. Кожны чацвер падчас турніру на плошчу заганялі вялікі натоўп школьнікаў, каб у іх масе было цяжка выявіць групу пратэстуючых жанчын.

> **Пуціну не трэба забываць, што поспех у 1978-м аказаўся для аргенцінскай хунты толькі адтэрміноўкай яе скону. Інтэрвенцыя на падкантрольныя Брытаніі Мальдыўскія астравы скончылася фатальна**

Палохаліся генералы і палітычных дэмаршаў з боку спартоўцаў. На той час яшчэ не забылася Алімпіяда ў Мехіка ў 1968-м, калі чарнаскурыя афраамерыканцы, стоячы на п'едэстале, узнялі ўверх кулакі — жэст актывістаў радыкальнай антыўрадовай арганізацыі «Чорныя пантэры». У Аргенціне абышлося без падобных выхадак. Магчыма, таму, што шэраг футбалістаў (напрыклад, легендарны нідэрландскі футбаліст Ёхан Круіф) у знак пратэсту вырашылі ігнараваць Кубак свету–1978. Праўда, гульцы зборнай Нідэрландаў падчас цырымоніі ўзнагароджання ўсё ж адмовіліся паціскаць рукі прысутнаму прадстаўніку вайсковай адміністрацыі.

Хаця пэўных асацыяцый паміж Аргенцінай–1978 і Расіяй–2018 хапае, ёсць і прынцыповая розніца. Зборная Расія так кепска гуляе ў футбол, што ў яе перамогу практычна ніхто не верыць. У Аргенціне была іншая сітуацыя. Генералы разумелі, што правал зборнай ударыць па іх рэпутацыі. Таму камандай займаўся асабіста Відэла. Ніводны футбаліст не мог патрапіць у склад без яго прамога ўхвалення. Праз гэта ў камандзе не з'явіўся вельмі перспектыўны Марадона, які на той час не меў дастатковага вопыту гульні за зборную.

Падключыў Відэла і матэрыяльны рэсурс. Па ходзе турніру сітуацыя склалася такім чынам, што гаспадарам для выхаду ў наступны этап патрэбная была перамога над Перу з лікам 6:0. Менавіта так матч і завяршыўся. Хутка пайшлі чуткі, што перуанскаму ўраду далі хабар памерам у 50 мільёнаў долараў, каб той патлумачыў зборнай, як трэба гуляць. Нягледзячы на абуральныя прыкметы карупцыі, FIFA рашуча адмовілася праводзіць якое б там ні было расследаванне.

Так ці інакш, у выніку Аргенціна прабілася ў фінал, дзе ў фантастычным матчы перамагла Нідэрланды. Гэта быў трыумф — таксама і для генералаў. Агульнанацыянальная эйфарыя дазволіла на нейкі час сапраўды дэпалітызаваць грамадства. «Вайна скончылася! Як толькі прагучаў фінальны свісток, Аргенціна ператварылася ў краіну міру», — сцвярджала праўладная газета «Para Ti». Напэўна, падобнага выніку чакаюць ад чэмпіянату і ў Крамлі.

Аднак Пуціну не трэба забываць, што поспех у 1978-м аказаўся для аргенцінскай хунты толькі адтэрміноўкай яе скону. На хвалі куражу ад вынікаў Мундыялю генералы пайшлі на фатальную авантуру — вайсковую інтэрвенцыю на падкантрольныя Брытаніі Мальдыўскія астравы. Гэта скончылася прайгранай вайной з Англіяй і крахам дыктатуры. Сам Відэла атрымаў пажыццёвы тэрмін за злачынствы супраць чалавецтва.

Якія будуць палітычныя наступствы Мундыялю для пуцінскай Расіі — адна з самых вялікіх інтрыг гэтага турніру.



Фота www.wlrn.org

# Свет пасля Сінгапура

Алег НОВІКАЎ

**Сустрэча Рональда Рэйгана і Міхаіла Гарбачова ў 1986-м або Анвара Садата і Менахіма Бегіна ў 1979-м. Напэўна, толькі з тымі гістарычнымі рандэву можна параўнаць сцэну 11 чэрвеня ў Сінгапуры, дзе Дональд Трамп абмяняўся поціскамі рукі з Кім Чэн Ынам.**

У інтэрнэце гуляюць чуткі — клоун Рональд збіраецца ў новае падарожжа. Кажуць, што ў хуткім часе рыхтуецца адкрыццё рэстарана McDonalds у Пхеньяне. Сапраўды, пасля саміту ў Сінгапуры, падаецца, ніякіх перашкодаў для адкрыцця бутэрброднай у КНДР няма.

Сам Кім Чэн Ын даўно вядомы як аматар заходняй спажывецкай культуры. Акрамя таго, удзельнікі сустрэчы дамовіліся ледзь не па ўсіх пытаннях. Трамп і Кім гатовыя «працаваць над поўнай дэнуклеарызацыяй Карэйскага паўвострава». Бакі дамовіліся ўсталяваць двухбаковыя адносіны ў новым фармаце і прыкласці намаганні для стварэння трывалага і стабільнага міру на Карэйскім паўвостраве. Абмяркоўваліся нават пошукі парэшткаў амерыканскіх вайскоўцаў, якія загінулі або зніклі без вестак у час Карэйскай вайны 1950–1953 гадоў.

Між тым, свет чакае значна большага ад сігнапурскай сустрэчы. На думку палітолагаў, спатканне 11 чэрвеня выклікае глабальныя змены. Праўда, большасць экспертаў лічаць, што гэта будуць перамены, магчыма, і не вельмі пазітыўныя.

Па-першае, відавочна, што саміт ЗША — КНДР аслабіць у заходнім грамадстве негатыўнае стаўленне на адрас розных дыктатараў і аўтарытарных лідараў. Як слушна нагадвае «The Sydney Morning Herald», на саміце не прагучала ніводнага слова пра правы чалавека ў Паўночнай Карэі. Між тым, як піша газета, «каля 80000 — 130000 дзяцей, жанчын і мужчын знаходзяцца ў паўночнакарэйскіх ГУЛАГах непасрэдна цяпер. Іх колькасць такая высокая і ўзроставы дыяпазон настолькі шырокі праз даўнюю сямейную палітыку Кімаў па ліквідацыі «насення» класавых ворагаў на працягу трох наступных пакаленняў».

Нездарма ў Маскве з нагоды сустрэчы не хаваюць радасці: маўляў, пасля Сінгапура дадзенае зялёнае святло спатканню Пуцін — Трамп. Калі ўжо прэзідэнт ЗША сустракаецца з такім ізгоем, як Кім, то чаму ж яму не сустрэцца з Пуціным? Зусім супрацьлеглыя настроі ў Кіеве, дзе выданне «Replyua» па слядах саміту 11 чэрвеня сцвярджае: «Усё больш довадаў казаць, што Трамп — расійскі шпіён, які быў завербаваны ў 2013 годзе падчас наведвання Масквы».

Па-другое, Сінгапур стварыў маладому Кім Чэн Ыну велізарныя аўтарытэт. Як адзначае CNN, «мы ўжо далі Кіму нешта вельмі каштоўнае: сам саміт. Стоячы побач з лідарам самай важнай сілы ў свеце, Кім атрымаў прэстыж і статус, пра які яго бацька і дзед нават не марылі. Вядома ж, яны хацелі яго атрымаць, але не атрымалі, таму што амерыканскія прэзідэнты не хацелі прапаноўваць ім саміты. Такім чынам, саміт ужо стаў перамогай для Кіма, і ён застанецца перамогай, нават калі пагадненне не будзе дасягнутае».

Найбольш радыкальныя высновы ў гэтым плане робіць нямецкая «Deutsche Welle». «З яго (Трампа) дэвізам: «Амерыка вышэй за ўсё», карнымі тарыфамі і шматлікімі парушэннямі кантрактаў, Трамп не выклікае даверу ў Азіі. І таму, акрамя ўсёй сімвалічнай палітыкі, гістарычны саміт у Сінгапуры азначае сабой пачатак канца Злучаных Штатаў як сусветнага паліцэйскага і надзейнай міратворчай дзяржавы».

Шмат хто непакоіцца, што Трамп пасля поспеху ў Сінгапуры, што называецца, цалкам зляціць са штулек. Па сутнасці, гэты быў сапраўды яго вялікі прарыў, які можа натхніць яго яшчэ на нешта. «Washington Post» з гэтай нагоды адзначае: «У складаных, поўных нюансаў сферах эканомікі і бяспекі ён (Трамп) нічога не дамогся, акрамя знішчэння папярэдніх пагадненняў, інстытутаў, нават анамальных паводзінаў на G-7 усяго некалькі дзён таму. Але ў Сінгапуры ён мог дамагчыся чагосьці без абмеркавання складаных пытанняў, без якіх-небудзь інтэлектуальных намаганняў: фатаграфія, «прарыў», вобраз бізнесоўца, які інтуітыўна хоча «міру».

«Business Week» палохае чытачоў, што пасля Сінгапура ўся знешняя палітыка ЗША ператворыцца ў шоў. Характэрная ў гэтым плане цытата самога Трампа. «Сядайце, калі ласка», — сказаў ён на адрас журналістаў, і пасля дадаў: «Вы ўсё атрымалі выдатную карцінку, а я буду выглядаць выдатна і сімпатычна». Трансфармацыі палітычнага працэсу ў нейкі піяр баяцца і ў французскай «L'Opinion». Каментуючы эпізод, калі Трамп і Кім ціснулі адзін аднаму рукі такім чынам, каб не выглядаць слабейшым за свайго візаві, выданне піша пра нейкі «сюррэалізм».

Аднак самае жудаснае — прынамсі, так лічыць «Los Angeles Times», — хаваецца ў тым, што Кім відавочна не збіраецца праводзіць тую самую «дэнуклеарызацыю». І хто ведае, ці не праінфармуюць Трампа пра гэта, калі яму будзе патрэбная новая карцінка, дзе ён выглядае як паслядоўны змагар з дыктатарамі?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Селахацін Дземітраш



Адзін з лідараў турэцкай Партыі народаў (HDP), што абараняе інтарэсы курдскай меншасці і туркаў левых поглядаў, знаходзіцца ў турме яшчэ з чэрвеня 2016-га як падазраваны ў дзяржаўным злачынстве. Тым не менш цяжкія ўмовы не перашкодзілі яму заявіць пра намер балатавацца на пасаду прэзідэнта Турцыі, якога будуць абіраць 24 чэрвеня.

Наведваць палітыка дазволена толькі адвакату. Тым не менш, кампанію Селахацін збіраецца весці праз сяброў і родных, якім ён будзе дасылаць лісты. Варта нагадаць, што Дэмакратычная партыя народаў не ўваходзіць ні ў адну з кааліцый, але ўстойліва набірае на кожных выбарах не менш за 11–13% галасоў. Хаця балаціроўка Дземітраша хутчэй сімвалічная, яна, як піша прэса, можа паблытаць расклад фаварыту Таіпу Эрдагану.

Калі курдскі выбаршчык прыйдзе на ўчасткі і прагаласуе за кандыдата HDP, Эрдаган не атрымае патрэбнай колькасці галасоў у першым туры. Тады ў другім раўндзе ён сустрэнецца з Мухарэм Інджэ, кандыдатам ад кемалістаў. Такая канфігурацыя дазваляе апазіцыі спадзявацца на перамогу.

### Павел Клімкін



Міністру замежных спраў Украіны даводзіцца займацца справамі, вельмі далёкімі ад міжнароднай палітыкі.

Нечакана высветлілася, што ў чэрвені ў Лондане прайшоў Чэмпіянат свету па футболе з удзелам каманд з непрызнаных дзяржаў. Акрамя зборных ДНР і ЛНР на турніры, адна каманда прадстаўляла непрызнаную дзяржаву «Закарпацце». Больш за тое, «закарпатцы» выйгралі чэмпіянат, абыграўшы 10 чэрвеня ў фінале прадстаўнікоў Паўночнага Кіпра.

Таксама вядома, што каманду падрыхтаваў адзін з дэпутатаў райсавету гораду Берагавое — цэнтру венгерскага анклава ва Украіне. Цяпер МЗС Украіны заклікае сілавыя ведамствы пакараць удзельнікаў сепаратысцкай правакацыі. «Лічу, што праваахоўныя органы павінны сустрэць каманду з «сяброўскім» прыёмам на радзіме і спытаць, адкуль у іх фінансаванне, чыёй падтрымкай карыстаюцца гульцы, і наогул паставіць яшчэ шмат пытанняў», — заявіў Клімкін.

Засталася пачакаць наступстваў патрабавання кіраўніка МЗС, паколькі ўсе гульцы зборнай Закарпацця, як высвятляецца, маюць пашпарты Венгрыі, з якой у Кіева і так вельмі напружаныя адносіны. Венгрыя, нагадаем, блакуе ўсе мерапрыемствы ў рамках NATO з удзелам Украіны праз новую рэдакцыю ўкраінскага закона пра адукацыю.

### Арлін Фостэр



Лідарка паўночнаірландскай Дэмакратычнай юніяністкай партыі (DUP), ад галасоў якой, дарэчы, залежыць лёс ураду Тэрэзы Мэй, на думку экспертаў, сапраўды можа выйсці з дамовы з кансерватарамі.

Гэтым яна справакуе на Альбіёне новы палітычны крызіс. Усё праз нядаўні травеньскі рэферэндум пра легалізацыю абортаў у суседняй Ірландыі, вынікі якога прэм'ерка Тэрэза Мэй асабіста вітала ў Twitter. Між тым, Фостэр і яе аднапартыйцы маюць іншую думку наконт гэтага пытання. Яны намагаюцца захаваць дзеючы дасюль у Паўночнай Ірландыі «Person Act», які быў прыняты аж у 1861 годзе, што забараняе аборты ў любым выглядзе.

У 1967 годзе ва ўсіх рэгіёнах Вялікабрытаніі — акрамя Паўночнай Ірландыі — згаданы Акт быў лібералізаваны. Шмат хто спадзяецца, што цяпер прыйшла чарга і Белфасту. Лейбарысты і ліберал ы ў брытанскім парламенце ўжо ўзнялі пытанне рэформы заканадаўства пра аборты ў Паўночнай Ірландыі. Цяпер усё залежыць ад прэм'ера, якой, з аднаго боку, хочацца мець галасы выбаршчыкаў-жанчын, а з іншага — не згубіць саюзнікаў з DUP. Але Арлін Фостэр ужо выдала раз'юшаную заяву, у якой прапанавала Мэй устрымацца ад нейкіх неабдуманых крокаў.

# Сяргей Дружылоўскі: «Я з вамі рабіў гісторыю, а мне за гэта — смерць...»



Алесь КІРКЕВІЧ

**Справы пра замежных агентаў, якія працавалі на польскую, нямецкую, балгарскую ды іншыя выведкі супраць СССР, мы прызвычаіліся лічыць ад пачатку сфабрыкаванымі: чэкісты, маўляў, зараблялі сабе зорачкі. Але ў бурлівых 1920-х гадах, калі міжнародная сістэма толькі адбудоўвалася пасля Вялікай вайны, Еўропа сапраўды была пранізаная агентурнымі сеткамі, і белаэмігранты ідэальна ўпісаліся ў гэтыя схемы.**

8 ліпеня 1927 года ў зале Вярхоўнага суда СССР на Спірыдонаўцы было цесна. Большасць крэслаў занялі журналісты як савецкіх, так і замежных выданняў, у далонях яны мулялі нататнікі ды сточаныя алоўкі. Фатографы сцякалі потам ад гарачыні пад грузам габарытных фотаапаратаў ды асвятляльнага абсталявання. Былі нават кінааператары... Што здарылася? Над кім суд?

На лаве падсудных — 32-гадовы Сяргей Дружылоўскі, агент некалькіх выведак і геніяльны фальсіфікатар. Газета «Известия» падрабязна апісала падсуднага: *«У Дружылоўскага нервовы рухавы твар, яскравыя бліскучыя вочы, погляд няўлоўны. Гэты выраз вачэй, дакладней, адсутнасць пэўнага выразу, вельмі характэрны для героя авантуры. (...) Знешне ён трымаецца спакойна, прамаўляе нягучна, але дакладна...»*

Да мяне ў рукі неяк трапіў арыгінальны фотаздымак з таго працэсу, які, верагодна, да часу захоўваўся ў архіве нейкай рэдакцыі. У цэнтры — сам Дружылоўскі з цыгарэтай у руках (цікава, у судзе можна было паліць!) і максімальна сканцэнтраваным тварам. Адваката ён свідруе вачыма, нібы гіпнатызёр. Па баках — канвойныя чэкісты з вінтоўкамі, што глядзяць на падсуднага, нібы на звера ў клетцы... Хто ж ён такі, гэты Дружылоўскі?

## Who is mr. Drurzylowski?

Сяргей Дружылоўскі нарадзіўся ў 1894 годзе ў Вільні ў сям'і ўрадніка з Рагачова. Цікава, што ў дакументах наш герой заўжды праходзіў як «рускі», нягледзячы на рагачоўска-віленскія карані ды прозвішча, якое можа трактавацца як польскае альбо беларускае. У 1912 годзе Дружылоўскі скончыў гімназію ў Клімавічах, у 1915-м — Школу прапаршчыкаў у Маскве. Адтуль — на вайну. Далей была яшчэ адна кваліфікацыя: Гатчынская лётная школа, ён — падпаручнік.

Пасля Кастрычніцкага перавароту Дружылоўскі збег у Фінляндыю, дзе прадстаўляў сябе «ахвярай чэкістаў» (ёсць версія, што чырвоныя яго сапраўды арыштоўвалі за... фальсіфікацыю хлебных картак). Як бы там ні было, далей Дружылоўскі трапіў у Паўночна-Заходнюю армію Юдзеніча, дзе займаў не абы-якую пасаду: ён быў ад'ютант камандуючага авіяцыяй. Але ад'ютант у дадзеным выпадку — гэта не пра тое, каб чысціць боты. Падчас наступу Юдзеніча на Петраград, Дружылоўскі адправіўся з дыверсійнай групай на аэрадром чырвоных, каб узарваць там ангар. Усё прайшло паспяхова — і кіраўнік групы нават атрымаў з рук генерала Юдзеніча ордэн.

Але наступ быў правальны, дый Грамадзянская вайна падыходзіла да канца: белыя прайгралі. Што рабіць? Дружылоўскі, як і тысячы іншых «неприкаянных» рускіх афіцэраў, зняў залатыя пагоны і адправіўся на Захад — спачатку ў Прыбалтыку, дзе выйшаў... не, не на латышскія ці эстонскія спецслужбы, але на Другі аддзел польскага Генштабу («Двуйку»). З гэтага і пачалася ягоная шпіёнская адысея.




Сяргей Дружылоўскі

## Журналіст-эмігрант-выведчык...

У Рэвелі Дружылоўскі афіцыйна займаўся журналістыкай, выдаючы «Экстренный бюллетень телеграфных сообщений», далей — газету «Последние новости». Усё гэта з дазволу міністра ўнутраных спраў Эстоніі Гелета, але фактычна пад рэдакцыяй польскага выведчыка Расціслава Ляхніцкага. Фінансавалася апошняя газета польскім вайсковым аташэ ў Рэвелі Багуслаўскім.

Сярод палякаў, якія з ім працавалі, фігуравалі таксама падпаручнік Мечыслаў Браткоўскі, начальнік 4-га аддзялення Другога аддзелу Генштабу, памочнік польскага вайсковага эксперта Матушэўскага. Навошта гэта палякам? Фактычна, гэта спосаб навязаць праз СМІ як мага шырэйшыя кантакты з белаэмігрантамі, якія ненавідзелі чырвоную Маскву і маглі быць карыснымі ў наступнай вайне, а таксама — цалкам легальна, па «журналісцкай лініі» збіраць патрэбную інфармацыю пра СССР.

Урэшце Дружылоўскі атрымаў польскі пашпарт і грамадзянства, а ў траўні 1921-га выехаў у Варшаву ў распараджэнне Другога аддзелу, будучы прызначаным начальнікам асведамляльнай групы. Цікава, што на гэтай пасадзе Дружылоўскі прабыў нядоўга, бо ўжо ў 1923-м ён пераехаў у Берлін. Што стала прычынай? Ягоная асабістая воля альбо загад камандавання? Калі загад, то хто менавіта яго даў?..

## «Паліцай-Прэзідыум» супраць рэзідэнтуры АДПУ

Важна дадаць, што сведчанні пра Дружылоўскага ў ягоных кароткіх біяграмах вельмі супярэчлівыя. Паходзіў ён з сям'і ўрадніка альбо паліцэйскага чыноўніка? Паспеў ён кароткі час паслужыць у РККА у Грамадзянскай вайне ці не? Супрацоўнічаў Дружылоўскі з АДПУ альбо... ? Калі звесткі пра АДПУ — праўда, то гэта можа тлумачыць шмат якія факты з далейшай біяграфіі нашага героя.

Апынуўшыся летам 1923-га ў Берліне, Дружылоўскі зноўку ўсплыў у эмігранцкай прэсе: працаваў у рускамоўнай газеце «Накануне». Адначасова Дружылоўскі выйшаў на «Паліцай-Прэзідыум» (штаб-кватэра нямецкай паліцыі) і прапанаваў там свае паслугі. Па іншай версіі, нямецкія спецслужбы выйшлі на Дружылоўскага першымі, заўважыўшы ягоныя кантакты з АДПУ, арыштавалі — ды перавербавалі.

Нямецкая контрвыведка ў 1920-х звяртала максімум увагі на актыўнасць з боку Масквы. Пасля няўдала чырвонай рэвалюцыі ў 1918-м левы рух у краіне атрымаў паразу, але займаў вельмі сур'ёзныя пазіцыі, асабліва ў прамысловых раёнах краіны (рэакцыяй на што і стаў пад'ём гітлераўскай НСДАП). Зразумела, усё гэта рабілася пад крылом СССР і Камінтэрну, стратэгія сусветнай рэвалюцыі ў Маскве разглядалася цалкам сур'ёзна.

На пачатку 1924 года ў белагвардзейскай газеце «Руль» з'явілася такая цікавая аб'ява: *«Руская інфармацыйная агенцыя "Руссіна" — Анабахерштрасэ, 8. Зарэгістравана нямецкімі ўладамі. Прымаем замовы на інфармацыю аб дзейнасці Камінтэрну ў сусветным маштабе, карэспандэнцыі і сведчанні аб стане рэчаў у Расіі. Патрэбныя карэспандэнты. Узнагарода па згодзе. Дырэктар С.М. Дружылоўскі. Сакратар П.Кіп».* Што гэта, як не публічная аб'ява аб вярбоўцы інфарматараў?.. Неверагодна, але факт.

Калі верыць легендзе пра супрацу Дружылоўскага з рэзідэнтурай АДПУ, гісторыя мела наступны абарот: чэкісты на пэўным этапе зразумелі, што іх агент ужо... не да канца іх агент, ды перарвалі кантакт. Праз гэта Дружылоўскі перастаў быць карысны немцам у такой ролі, таму і быў перакваліфікаваны на выраб фальшывак: дакументаў, якія дыскрэдытавалі левы рух і Маскву.

## «Фабрыка фальшывак»: мінімальныя сродкі і максімальны ўрон

У 1924–1925-х гадах Дружылоўскі вырабіў цэлы шэраг дакументаў ад імя Выканкаму Камінтэрну, якія падрывалі адносіны СССР і Захаду. Найбольш вядомы з іх — «Ліст Камінтэрну» да Балгарскай кампартыі з заклікам да радыкалізацыі і паўстання. Ліст быў перададзены Дружылоўскім, па адной з версіяў, немцам, па іншай — наўпрост балгарам (што і стала падставай лічыць яго яшчэ і «балгарскім шпіёнам»).

Вось што ў 1929-м пісалі «Известия» аб наступствах правакацыі: *«...фашыстоўскі кіраўнік Балгарыі Цанкоў апублікаваў фальшыўку ва ўсіх балгарскіх газетах, дэманстраваў у парламенце і пачаў крывавую расправу над усімі, хто меў нейкія адносіны да камуністычнага і працоўнага руху. Той парою ў Балгарыі былі закатаваныя тысячы камуністаў. Цанкоў адвёз фальшыўку ў Парыж, дзе паказаў савету паслоў Антанты, і савет дазволіў яму павялічыць армію на 10 000 чалавек, "праз смяротную небяспеку дзяржаве з боку камунізму"».*

Рэцэпт фальшывак быў просты: Дружылоўскі атрымліваў ад супрацоўнікаў «Паліцай-прэзідыуму» сапраўдныя бланкі з сімволікай СССР альбо Камінтэрну (пасля — самастойна замаўляў бланкі ў тыпаграфіі) ды пячаткамі, а далей — уключаў фантазію. Добрае валоданне рускай мовай, талент, а таксама навыкі ў падробцы подпісаў дапамагалі «ажыўляць» дакументы, якія пазней расцякаліся па амбасадах ды рэдакцыях газетаў, у тым ліку амерыканскіх, дзе ён яшчэ і журналісцкія ганарары атрымліваў.

Калі задумацца, то сродкі, укладзеныя ў «фабрыку фальшывак», апынуліся мінімаль-



Вайсковая калегія Вярхоўнага Суду СССР, пасярэдзіне — Васіль Ульрых

**Сярод матэрыялаў справы, у канверце, падшытым да першага тому, ёсць нават асобная кніжачка, надрукаваная ў 1926-м выдавецтвам «Лениздат» пад загалоўкам «Антысавецкія фальшыўкі», — не кожны злачынца мае ў сваёй справе цэлую кнігу, прысвечаную сваёй дзейнасці**



Дружылоўскі на працэсе, друкуецца ўпершыню (скан з арыгіналу, прыватная калекцыя, Беларусь)

нымі: офіс, бланкі, пячаткі, машыністка і эрудыцыя аўтара. Часам у сваіх паказаннях савецкім органам Дружылоўскі ўзгадвае пра аплату, напрыклад, 200 залатых нямецкіх марак за адзін з дакументаў (ад газеты «Chicago Tribune»). Сродкі мізэрныя, а наступствы для Масквы — фатальныя.

У сваіх паказаннях Дружылоўскі падрабязна апісаў стварэнне фальшывак: «*...Я стварыў новы падложны дакумент Камінтэрна, які павінен быў сведчыць аб арганізацыі ў французскай Кампартыі Асобных Аддзелаў па загадзе Масквы. Перадрукоўвала гэты дакумент мая машыністка Салаўёва Валерыя Мікалаеўна — эмігрантка, якая пражывала ў Берліне, адрас запісаны ў маёй запісной кніжцы*». Далей Дружылоўскі згадаў лейтэнанта Вайё, супрацоўніка французскай вайсковай місіі ў Берліне... Вось вам яшчэ і французскі вектар!

Шэраг дакументаў быў адрасаваны ўжо нібыта польскім камуністам. Вынік аналагічны: рэпрэсіі супраць левых па ўсёй Польшчы... Прычым, незразумела нават, ці рабіў тое Дружылоўскі ад імя нямецкіх спецслужбаў ці ад імя Другога аддзелу польскага Генштабу. Зрэшты, цалкам магчыма, што грошы наш герой браў і з першых, і з другіх.

## Выкралі ці падманулі?..

Калі ў Маскве зразумелі, што з дапамогай фальшывак Дружылоўскага еўрапейскія ўрады атрымліваюць карт-бланш на знішчэнне ячэек Камінтэрну, у якія ўкладаўся немалы рэсурс, за яго ўзяліся. Найперш — публічная дыскрэдытацыя. Пад дыктоўку адмысловцаў АДПУ з савецкага пасольства ў Берліне ў галоўнай газеце нямецкіх камуністаў «Rote Fahne» выйшаў артыкул пра фальсіфікатара. Выбухнуў скандал, а немцы паспяшаліся «зліць» свайго агента, ціха арыштаваўшы і выслаўшы ў Эстонію.

Эстонцы нібыта выслалі Дружылоўскага ў Латвію — і тут версіі разыходзяцца. Па адной з іх, АДПУ наўпрост выкрала Дружылоўскага ды завезла ў Маскву. Па іншай — са сваім колішнім агентам савецкая спецслужба ўступіла ў кантакт, паабяцаўшы бяспеку і працу, ды запрасіла ў СССР. Малаверагоднай падаецца інфармацыя, маўляў, Дружылоўскі сам у чэрвені 1926-га нелегальна перайшоў мяжу і здаўся органам... Так ці інакш, легальна ці нелегальна, Сяргей Дружылоўскі апынуўся ў Краіне Саветаў, дзе і быў арыштаваны.

## «Мяне судзілі за вас...»

Следства разам з падрыхтоўкамі да паказальнага суда трывала каля года. Цікава, што сярод матэрыялаў справы, у канверце, падшытым да першага тому, ёсць нават асобная кніжачка, надрукаваная ў 1926-м выдавецтвам «Лениздат» пад загалоўкам «Антысавецкія фальшыўкі», — не кожны злачынца мае ў сваёй справе цэлую кнігу, прысвечаную сваёй дзейнасці...

Цікавыя пазнакі самога Дружылоўскага на розных старонках томіка, маргіналіі на палях: *«амерыканская фальшыўка», «асноўны фальшывы бланк Камінтэрну», «адбіткі і герб», «балканскія фальшыўкі», «польская фальшыўка»*... Трапляюцца часам і больш разгорнутыя подпісы, на якіх, відаць настойвалі следчыя, напрыклад: *«Гэты дакумент з'яўляецца маёй фабрыкацыяй перыяду 1925 г. Сяргей Дружылоўскі. Масква 16/VII [19]26 г.»*

Каб канчаткова зламаць Дружылоўскага, адначасова атрымаўшы максімальны публічны эфект, чэкісты надыктавалі арыштаванаму... петыцыю на імя «замежных гаспадароў», якую пасля перадрукоўвалі савецкія газеты. Сумная іронія лёсу: раней Дружылоўскі генераваў фальшыўкі, выдаючы іх за інструкцыі Камінтэрну, зараз жа чэкісты надыктоўвалі яму дакумент, пад якім фальсіфікатар упершыню мусіў паставіць свой подпіс. Атрымалася даволі экспрэсіўна:

*«...Няўжо я адзін? Няўжо я мог быць адзін? А дзе зараз тыя, хто вёў мяне пад ручкі да магілы... Я ж ваш, я з вамі гісторыю рабіў, а за гэта мне — смерць... Мяне судзілі за вас, за вашы гістарычныя справы («дела-делишки». — так у тэксце, рэд.). І смерць мне таксама за вас».*

## Рэабілітацыі не падлягае

Разгледзеўшы матэрыял па справе № 39379, следчы Уладзіміраў выявіў, што *«Дружылоўскі Сяргей Міхайлавіч знаходзіўся нягласным агентам разнастайных замежных дзяржаваў, сістэматычна фабрыкаваў падложныя дакументы Цэнтральных Урадавых, Партыйных установаў СССР і Камінтэрну, у мэтах схілення замежных дзяржаваў да ўзброенага ўмяшання ў справы Рабоча-Сялянскай Рэспублікі. Адначасна з гэтым указаны гр. Дружылоўскі займаўся шпіёнскай дзейнасцю ва ўстановах СССР на карысць замежных дзяржаваў».*

12 ліпеня Вайсковая Калегія Вярхоўнага Суда СССР вынесла вырак па справе: расстрэл. Дарэчы, старшынёй на працэсе быў Васіль Ульрых: той самы, які папярэдне судзіў Савінкава, а пасля — Тухачэўскага, партыйную апазіцыю, трацкістаў, Уласава, Краснова, Шкуро ды іншых. Спецыяльнасцю Ульрыха былі публічныя працэсы над статуснымі злачынцамі... На дзіва, сам Ульрых так і не трапіў у жорны сістэмы — мабыць, чалавек быў занадта карысны, а памёр ад інсульту ажно ў 1951-м.



Auflage 600000
Jeder wehrhafte Proletarier muß in unseren Reihen mitkämpfen!
Preis 10 Pfg.
die Rote Front
Bundesorgan des Roten Frontkämpfer-Bundes Deutschlands
Nr. 2
Rot Front der Roten Armee!



Werbt unaufhörlich neue Kämpfer!

Газета нямецкіх камуністаў з заклікам да сусветнай рэвалюцыі на 1-й паласе

Дружылоўскі так і не быў рэабілітаваны. У заключэнні расійскай вайсковай пракуратуры ад 12 ліпеня 2002 года ідзецца аб тым, што Сяргей Міхайлавіч *«быў асуджаны абаснавана» і на падставе «арт. 4 п. "а" і арт. 8, ч. 3 Закону РФ ад 18.10.91 г. "Аб рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў" рэабілітацыі не падлягае».*

## Замест эпілогу

Сёння мы не можам сказаць з дакладнасцю, які адсотак «павешанага» на Дружылоўскага матэрыялу праўда, які — фальшыўка, але ўжо савецкая. Бо калі ўлічыць увесь аб'ём дзейнасці нашага земляка, варта прызнаць — гэта геній фальсіфікацыі і шпіянажу, які працаваў на дзясятак выведак усёй Еўропы ды ЗША. Магло быць і па-іншаму: Дружылоўскі сапраўды рабіў падлогі на замову, але быў і адсотак сапраўдных дакументаў аб падрыўной дзейнасці Камінтэрну ў заходніх дзяржавах, якія траплялі ў рукі немцаў, французаў альбо палякаў.

Саветам жа было выгадна ўсе памылкі і «злівы» сваіх агентаў спісаць на аднаго чалавека, маўляў, калі ёсць факт фальсіфікацыі, значыць — любы перахоплены дакумент Камінтэрну ўжо аўтаматычна фальшыўка. Ну а як працуюць следчыя АДПУ і якія прызнанні могуць выбіць з вязняў — ні для каго не сакрэт...

Разам з тым, калі чытаеш у паказаннях Дружылоўскага, пра ўсе гэтыя *«сакрэтныя інструкцыі па ўзброеных выступах» ды «падпольныя ячэйкі ў балгарскай арміі»*, якія ён фабрыкаваў і перадаваў у амбасады, міжволі ўзгадваеш гісторыю з «Фрау А.» у беларускім пасольстве ў Германіі ды «заклікі да паўстання» са ўзламаных старонак у сацсетках у сакавіку 2017 года. Раней, каб дыскрэдытаваць структуру альбо чалавека, трэба было фальсіфікаваць бланк, сёння — узламаць профіль у facebook, усяго толькі. Агулам жа метады спецслужбаў застаюцца тыя ж самыя — як кажуць, нічога новага няма пад сонцам.

# Гродзенцы, пішыце заявы ў беларускія класы!



Аксана САВАШ

**З 12 чэрвеня пачаўся прыём заяў у першыя беларускамоўныя класы Гродна. З гэтай нагоды намеснік старшыні Гродзенскай абласной ГА ТБМ Алесь Крой, які шмат гадоў курыруе папулярызацыю беларускага навучання, звяртаецца да бацькоў.**

— Шаноўныя бацькі будучых першакласнікаў, з 12 чэрвеня і па 28 жніўня 2018 года вы маеце канстытуцыйнае права падаваць заявы ў школы для навучання сваіх дзетак па-беларуску. Заявы ў адкрытыя беларускія класы (не толькі ў першыя) можна пісаць гродзенцам і тым, хто пераехаў у Гродна з іншых рэгіёнаў Беларусі і замежжа. Таму пішам заявы ў беларускія класы — і разам з дзецьмі ці на курсах «Мова нанова» ўдасканальваем сваю беларускую мову. Пазней не будзе сорамна перад нашымі суседзямі за сябе і сваіх дзяцей.

***— У гэтым годзе, упершыню ў XXI стагоддзі, быў юрыдычна зарэгістраваны Нацыянальны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча, дзе прадметы будуць выкладацца найперш па-беларуску. А ці дастаткова вучняў на Гродзеншыне вучыцца на роднай мове, каб працягваць навучанне па-беларуску ў гэтай ВНУ?***

— Толькі ў Гродзенскай вобласці ў беларускіх класах рускамоўных школ навучаецца каля тысячы дзяцей, прынамсі пару гадоў таму ўпраўленне адукацыі давала такую інфармацыю. Сёння ўжо толькі ў абласным цэнтры — больш за 60 дзяцей. Для 23 тысяч людзей, якія штодня гавораць дома па-беларуску і 120 тысяч гродзенцаў, якія прызналі беларускую мову роднай (перапіс насельніцтва 2009 года), — лічба невялікая, але ў горадзе яна паступова павялічваецца, дзякуючы нашым папулярызатарам ад ТБМ на школьных бацькоўскіх сходах. На Гродзеншчыне (у Гродзенскай вобласці) беларускую мову роднай прызнае большая частка насельніцтва.

Але механізмы выцяснення беларускай мовы, закладзеныя напачатку 1990-х гадоў мінулага стагоддзя, па інерцыі дзейнічаюць і сёння. Тым не менш, штогод на Гродзеншчыне ствараюцца новыя беларускія класы. Амаль паўтара дзясятка тысяч вучняў вучацца ў беларускіх школах Гродзенскай вобласці, нават калі частка з іх толькі фармальна лічыцца беларускімі, вучняў для нацыянальнага беларускага ўніверсітэта пакуль дастаткова шмат. А яшчэ ёсць пяць іншых абласцей Беларусі!

Раней працягваць навучанне на роднай мове ў XXI стагоддзі ў Беларусі не было ніякай магчымасці, за выключэннем некалькіх спецыяльнасцей філалагічнага, гістарычнага і журналісцкага профілю. І вы ведаеце чаму. Пасля шматлікіх гадоў цяжкай працы рэспубліканскага ТБМ і адстойвання права беларусаў на любую адукацыю на роднай мове Таварыства беларускай мовы дамаглося дзяржаўнай рэгістрацыі беларускай ВНУ імя Ніла Гілевіча. Таму, магчыма, праз год-два выпускнікі сярэдніх школ змогуць вучыцца там і атрымоўваць адукацыю па-беларуску па розных сучасных спецыяльнасцях. Верагодна, і дзяржаўныя ВНУ будуць вымушаныя праз нейкі час пашыраць навучанне на роднай мове. Павінна быць канкурэнцыя і сярод беларускамоўных ВНУ.

**ТБМ дамаглося дзяржаўнай рэгістрацыі беларускай ВНУ імя Ніла Гілевіча. Магчыма, праз год-два выпускнікі сярэдніх школ змогуць вучыцца там і атрымоўваць адукацыю па-беларуску. Верагодна, і дзяржаўныя ВНУ будуць вымушаныя пашыраць навучанне на роднай мове**

***— У якія школы Гродна варта аддаваць вучыць дзяцей, каб яны добра засвоілі ўсю школьную праграму па-беларуску?***

— Напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, каб адказаць на гэтае пытанне, варта было б падумаць, бо каля 80% школ Гродна былі беларускія. Сёння, пасля невыканання ініцыятарамі рэферэндуму яго вынікаў аб роўнасці рускай і беларускай моваў, я магу пакуль назваць толькі 2 школы ў Гродна, якіх мы разам з бацькамі дамагліся каля 8 гадоў таму. **Школа №32 у Ленінскім раёне (Дзевятоўка) і школа №34 у Кастрычніцкім раёне (Вішнявец).** Там ёсць беларускія класы, добрыя настаўнікі, метадычная база і спрыянне адміністрацый гэтых школ да павелічэння колькасці беларускіх класаў. Чаго не хапае? Рэкламы ў дзяржаўных СМІ, на сайтах і тэлебачанні, яшчэ большай актыўнасці адміністрацый навучальных установаў і простых настаўнікаў. Новы беларускі клас — гэта новыя гадзіны для настаўнікаў школ — адсюль і вышэйшы заробак. У гэтых школах ёсць выкладчыкі беларускай мовы, дзясяткі вучняў якіх былі ўдзельнікамі і пераможцамі раённых, абласных і рэспубліканскіх алімпіяд. Дастаткова назваць адну такую настаўніцу школы №32 — **Зою Аляксандраўну Бушэйка!** А ёсць і шмат іншых!

Не забывайма таксама, што пакуль мы абралі элементы фінскай адукацыйнай сістэмы, адной з лепшых у свеце, дзе элітарных школ фактычна няма.

Вось кантакты гэтых школ:

**СШ №32** («Дзевятоўка», вул. Ліможа, 11). Тэлефон сакратара школы №32: 78-56-01. Завуч пачатковай школы №32: працоўны тэл. 78-56-08 (Багдановіч Валянціна Іваноўна). E-mail: Sh32@mail.grodno.by.

**Ленінскі аддзел адукацыі**: 72-10-65.

**СШ №34** («Вішнявец», вул. Індурская шаша, 14). Тэлефон сакратара школы №34: 33-20-98 (8033 668-33-43 маб. тэл.). E-mail: sh34oktroo@yandex.ru. Завуч пачатковай школы №34: Карпук Таццяна Міхайлаўна, працоўны тэл. 31-40-45. E-mail: Sh34oktroo@mail.grodno.by.

**Кастрычніцкі аддзел адукацыі**: 69-71-12, 69-71-10 (Адамовіч Алена Вацлаваўна), 69-71-17 (Іпатава Таццяна Анатольеўна).

**Аддзел адукацыі Гродзенскага гарвыканкама**: 72-04-02. Тэлефон начальніка аддзела адукацыі гарвыканкама: 72-05-58 (Семанчык Андрэй Антонавіч).

У Гродна таксама ў кожным раёне працуюць садкі, дзе ёсць беларускія групы.

Ленінскі раён: **д/с №45** (2 беларускія групы, каля вул. Горкага, на вул. Сухамбаева, 5, тэл. 43-72-28, Кушнірук Людміла Іванаўна — загадчыца садка). Зараз фармуецца новая аднаўзроставая група з 20 чалавек, 6 чалавек з садка пайшлі ў школу. Другая беларуская група, рознаўзроставая, фармуецца на 15 чалавек.

Кастрычніцкі раён: **д/с №65** (1-я група, вул. Рэпіна, 7, тэл. 53-08-97, Прэцкайла Алена Сямёнаўна — загадчыца садка). Сфармавана ў 2017 годзе група з 22 чалавек.

***— А побач з СШ №32 і СШ № 34 ёсць беларускія групы ў дзіцячых садках?***

— У траўні гэтага года ў Гродзенскае ТБМ звярнуліся бацькі, каб да лета наступнага (2019 год) мы дапамаглі ім стварыць беларускую групу ў раёне СШ №32. Мы звярнуліся ў Ленінскі аддзел адукацыі дашкольнага выхавання (Рэкець Наталля Пятроўна, тэл. 72-10-65), каб даведацца, у якім садку мікрараёна Дзевятоўка будзе найлепшая магчымасць адкрыць новую беларускую групу. Але, калі бацькі не будуць «спаць у шапку» і будуць больш актыўнымі, то і пытанне з адкрыццём новай групы агульнымі намаганнямі будзе вырашана хутчэй.

Трэба браць прыклад ад нашых продкаў, якія былі больш актыўнымі і першымі ў свеце 400 гадоў таму надрукавалі Буквар на роднай мове, а Біблію — першымі ва Усходняй Еўропе. Па гэтых кнігах шмат гадоў вучыліся чытаць і пісаць не толькі дзеці.

У шматлікіх гарадах Беларусі, дзе бацькі працягваюць праяўляць актыўнасць, іх дзеці ўжо вучацца ў беларускіх садках і класах. Дарэчы, сёння маладыя бацькі, аддаючы дзяцей у беларускія класы, сталі бачыць больш акрэсленую будучыню і дзякуючы зарэгістраванаму Нацыянальнаму ўніверсітэту ў Мінску.

Таму яшчэ раз шчыра запрашаем: гродзенцы, пішам заявы ў беларускія класы, заканчваем школу і паступаем у Нацыянальны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча.

**Нашы кантакты:**

Тэлефоны Гродзенскай абласной арганізацыі ТБМ: 8029-943-58-09 (школы, Крой Аляксандр), МТС 285-93-07 (школы, Буднік Іван), МТС 786-59-89 (садкі, Парфёненка Вітаўт). Эл. пошта: tbm.garodnia@tut.by.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №261

Падпісана да друку 15.06.2018. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.